–Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
18
КАСТРЫЧНІКА
1991 г.
№ 42 (3608)
ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.
КОШТ — 15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)



## «Жыць нельга нам без «ЛіМа»

Пісаць у «ЛіМ»
Можна ўсім.
Старонкі «ЛіМа» —
Не для падхаліма.
І сталі мы якімі,
Даведаемся ў «ЛіМе»;
Ісці ў дарогу з кім —
Таксама скажа «ЛіМ».
Унучка мая Дуся:
— На «ЛіМ» я падпішуся!
— Ага, — сказаў брат Дзіма, —
Жыць нельга нам без «ЛіМа».
Зразумець іх проста:
«ЛіМ» — крыніца росту.

Браніслаў ПЯТКЕВІЧ, пенсіянер.
Полацкі раён, в. Бабынічы.
5. X. 91.

●

Вы трымаеце ў руках АПОШНІ нумар «ЛіМа»... Апошні па часе выхаду. Але што вы зрабілі, каб не здарылася гэтак у канцы года? Ці падпісаліся вы на «ЛіМ»-92? Сёння яшчэ не позна засведчыць сваю вернасць нашай газеце. Да заканчэння падпіскі засталося менш двух тыдняў.

Наш індэкс — 63856.

Кошт падпіскі на 1992 год — 5 рублёў 40 капеек.

**ВЫПІСВАЙЦЕ «ЛіМ»!**




# НА ТЫМ ЖА МЕСЦЫ

У дзень, калі пачалася чарговая сесія ВС Беларусі, на сталічнай плошчы імя Леніна зноў быў мітынг. Некаторыя лозунгі на плакатах мітынгуючых — скажам, «Рыначнай эканоміцы — рынычная зарплата», «Адмяніць пяціпрацэнтны падатак» — можна было бачыць на гэтай плошчы яшчэ паўгода назад, у час красавіцкіх стачак. Той факт, што працоўныя тады стыхійна пайшлі не за афіцыйнымі прафсаюзамі (проста праігнараваўшы іх), а за нефармальнымі лідэрамі рабочага руху, за стачкамамі, відаць, увесь час не даваў спакою кіраўнікам Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі.

Недзе за тыдзень да сесіі ФПБ выпусціла зварот да народных дэпутатаў, урада рэспублікі. У ім — патрабаванні прыняць пакет законаў, якія павінны забяспечыць сацыяльную абарону працоўных, пенсіянераў, моладзі, устанавіць мінімальную зарплату на ўзроўні не ніжэй пражытковага мінімуму і г. д. З аналагічнымі заявамі выступілі галіновыя прафсаюзы. Было вырашана правесці мітынг-сустрэчу з народнымі дэпутатамі.

Сабралася некалькі тысяч чалавек — прадстаўнікі працоўных калектываў і прафсаюзных арганізацый Менска, а таксама Віцебска, Гомеля, Гародні, Барысава, Вілейскага, Нараўлянскага, Ельскага, Слуцкага і іншых раёнаў (многія прыехалі па камандзіроўках). У выступленнях рабочага, настаўніцы, урача, дырэктара тэатра, культработніка, фізкультурніка, як і трэба было чакаць, дасталося і ўраду, і Вярхоўнаму Савету, і апазіцыі. Але і дэпутаты ад апазіцыі ў сваіх выступленнях не саступалі ў крытыцы парламента сваім «апанентам». Сустаршыня Менскага стачкама народны дэпутат Беларусі С. Антончык выказаўся ў тым плане, што сёння не так важна, хто іменна павядзе за сабой працоўных — афіцыйныя прафсаюзы ці якія-небудзь іншыя. Галоўнае, каб людзі зноў не аказаліся падманутымі папулісцкімі лозунгамі наменклатуры, якае па-ранейшаму упэўнена сябе пачувае ў вышэйшых эшалонах улады. Афарыстычную характарыстыку сённяшняй палітычнай сітуацыі ў рэспубліцы прапанаваў у сваім выступленні З. Пазняк: «Ідэі дэмакратыі перамаглі, але ўся ўлада засталася ў руках наменклатуры». Лідэр БНФ прапанаваў кіраўнікам прафсаюзаў (учарашняй «школы камунізму») выступіць ініцыятарамі перадачы маёмасці КПСС-КПБ народу. Мяркуючы па рэакцыі большасці прысутных, ідэя пярэчання не выклікала...

За апошнія паўгода адбыліся гістарычныя падзеі, незваротныя змены ў жыцці грамадства. Не змянілася адно — эканамічная сітуацыя. Матэрыяльныя варункі большасці людзей, якія па-ранейшаму адчужаны ад уласнасці, толькі яшчэ больш пагоршыліся. Людзі не бачаць перспектывы на лепшае. Дык значыць — «...заўтра, на тым жа месцы»?

**Віталь ТАРАС.**
Фота У. ПАНАДЫ.

# Кола Дзён

Такой «залатой восені», якая надарылася сёлета, бадай, і не ўспомніш. Да сярэдзіны кастрычніка на Беларусі выкапалі практычна ўсю бульбу. Справа, зразумела, не толькі ў цудоўным надвор'і. Проста клопат пра дзень заўтрашні з абстрактна-дэкларацыйнага зрабіўся рэальным.

Абяцаная дапамога багатага Захаду — гэта, канечне, няблага. Пэўныя, хоць і вельмі асцярожныя, надзеі звязваюцца і з магчымым дагаворам аб эканамічнай супольнасці рэспублік былога СССР. Але галоўнае залежыць ад нашага ўласнага ўмення працаваць і гаспадарыць.

### 11 КАСТРЫЧНІКА

на пасяджэнні Дзяржаўнага Савета ў Маскве кіраўнікі суверэнных рэспублік (Беларусь прадстаўляў Старшыня ВС С. Шушкевіч) і Прэзідэнт СССР М. Гарбачоў дамовіліся аб падпісанні эканамічнага пагаднення. Але названая дата — 15 кастрычніка, як выявілася, аказалася нерэальнай. Акрамя таго, Дзяржсавет прыняў рашэнне аб расфарміраванні структур саюзнага КДБ.

На адным з энергаблокаў Чарнобыльскай АЭС узнік пажар, быў разбураны дах над блокам. Пажар быў хутка ліквідаваны, рэактар — заглушаны. Як запэўніваюць афіцыйныя інстанцыі, радыяцыйнай небяспекі не было і няма. Насельніцтву застаецца прыняць гэта на веру.

Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь В. Кебіч сустрэўся ў Варшаве з Прэзідэнтам Рэспублікі Польшча Л. Валенсам. У час афіцыйнага візіту былі падпісаны сумесныя дэкларацыі аб асновах добрасуседскіх адносін, пагадненне аб гандлі і эканамічным супрацоўніцтве. Прайшла таксама сустрэча нашай дэлегацыі з прадстаўнікамі беларускай меншасці ў РП.

### 12 КАСТРЫЧНІКА

пачаўся першы (установчы) з'езд Згуртавання беларускіх вайскоўцаў.

На сваю канферэнцыю сабраліся сябры Беларускага народнага фронту «Адраджэнне».

Усенародным галасаваннем Прэзідэнтам Кыргызстана выбраны А. Акаеў.

### 13 КАСТРЫЧНІКА

на сустрэчы міністраў фінансаў краін «вялікай сямёркі» ў Бангкоку (Тайланд) пасля даклада Г. Яўлінскага аб эканамічным становішчы ў СССР прынята рашэнне аб аказанні гуманітарнай дапамогі рэспублікам.

### 14 КАСТРЫЧНІКА

Камітэт канстытуцыйнага нагляду СССР абнародаваў заключэнне, паводле якога існуючы ў краіне рэжым прапіскі прызнаецца супрацьпраўным і павінен быць скасаваны з 1 студзеня наступнага года.

### 15 КАСТРЫЧНІКА

пачала работу чарговая сесія ВС Беларусі. На адным з першых пасяджэнняў прысутнічала дэлегацыя Еўрапейскага парламента.

Першым Генеральным пракурорам Рэспублікі Беларусь дэпутаты прызначылі народнага дэпутата СССР М. Ігнатовіча.

У Маскве М. Гарбачоў правёў перагаворы з прэзідэнтамі Сербіі і Харватыі, спрабуючы выступіць пасрэднікам у збліжэнні пазіцый удзельнікаў канфлікту.

### 16 КАСТРЫЧНІКА

ў Арменіі прайшлі выбары Прэзідэнта рэспублікі.

# «МЫ, НАРОД...»

**— гэтымі словамі пачынаецца Канстытуцыя Беларусі, праект якой вынесены на разгляд сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі**

Бясспрэчна, што найбольшую ўвагу людзей, якія сочаць за працай парламента і ўсё яшчэ звязваюць з ім нейкія спадзяванні, прыцягне абмеркаванне законапраектаў аб падатках, раздзяржаўленні і прыватызацыі ўласнасці, сацыяльнай абароненасці малазабяспечаных грамадзян. І гэта зусім натуральна. Насельніцтва, змучанае барацьбой за выжыванне, прагне рэальных змен да лепшага, але далёка не заўсёды ўсведамляе тыя шляхі, што вядуць да годнага жыцця. І, як вынік, — распаўсюджанасць сярод значнай часткі грамадства спажывецкіх, «кілбасных» настрояў у дачыненні да суверэнізацыі, да будаўніцтва незалежнай Беларусі. На гэтых настроях сёння не без поспеху гуляе былая камуністычная эліта, спрабуючы асядлаць людскую незадаволенасць і дыскрэдытаваць сціплыя пакуль што дасягненні дэмакратаў-адраджэнцаў.

Усё гэта надзвычай ускладняе заканатворчую працу, а тым больш такую, як стварэнне Канстытуцыі. Паміж тым, што ёсць (і яшчэ будзе), і тым, што павінна быць, разрастаецца вялізны прагал. Між тым, нам патрэбны не чарговы міф, не завоблачныя вышыні, але — Асноўны Закон дзяржавы, якая атрымала новы шанц і гістарычную перспектыву сцвердзіць сябе роўнай сярод роўных.

**І вось праект Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь падрыхтаваны і прапанаваны для абмеркавання ў парламенце. Да гонару заканатворцаў, членаў Канстытуцыйнай камісіі, ім удалося ўзняцца над палітычнымі і ідэалагічнымі баталіямі і, грунтуючыся на лепшых айчынных і сусветных традыцыях, скласці пазбаўлены дэмагагічнага шалупіння тэкст, які сцвярджае нормы цывілізаванага жыцця.**

Зыходзячы з Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце, праект Канстытуцыі замацоўвае вяршэнства і паўнату ўлады рэспублікі на сваёй тэрыторыі. Вышэйшай каштоўнасцю грамадства і дзяржавы прызнаецца чалавек, вышэйшай мэтай— забеспячэнне правоў і свабод грамадзян, адзінай крыніцай дзяржайнай улады — народ («Узурпацыя ўлады з'яўляецца найцяжэйшым злачынствам»). Закладзены прынцып раздзялення заканадаўчай, выканаўчай і судовай улад. Дэмакратыя ў Рэспубліцы Беларусь, адзначаецца ў праекце, ажыццяўляецца на аснове разнастайнасці палітычных інстытутаў, ідэалогій і поглядаў. Ніякая ідэалогія не можа ўстанаўлівацца ў якасці дзяржаўнай ідэалогіі. Забараняецца стварэнне і дзейнасць тых палітычных партый, якія выступаюць супраць суверэнітэту, цэласнасці і бяспекі рэспублікі. Дзяржава гарантуе кожнаму права ўласнасці такім чынам, што ўласнік мае права валодаць, карыстацца і распараджацца маёмасцю. Законам ахоўваецца недатыкальнасць уласнасці, права атрымання яе ў спадчыну...

У пэўным сэнсе праект Канстытуцыі, пачынаючы са слоў «Мы, народ», з'яўляецца апраткай навырост. Але гэта, скажам так, вельмі прыстойная вопратка, у якой не сорамна будзе выйсці ў свет.

**А. ГАНЧАРОЎ.**

# Беларускія вайскоўцы пачынаюць...




Фота У. ПАНАДЫ.

У мінулыя выхадныя Дом літаратара ў Менску быў «заняты» вайскоўцамі. Але падзея, што тут адбывалася, мела цалкам грамадзянскі характар. Беларускія вайскоўцы рознага рангу, многія з якіх прыехалі за тысячы кіламетраў з месца службы, афіцэры запасу, радавыя, курсанты, сабраліся на ўстаноўчы з'езд свайго згуртавання.

У некай меры сімвалічна, што памяшканне для з'езда прадаставіў творчы саюз, а не Дом афіцэраў Беларускай ваеннай акругі, які знаходзіцца, дарэчы, зусім блізка ад Дома літаратара. Праўда, і сам па сабе факт правядзення падобнага з'езда яшчэ зусім нядаўна цяжка было сабе ўявіць. Але часы імкліва мяняюцца.

Саюзныя імперскія структуры развальваюцца, альбо ўжо развaліліся. Глыбокі крызіс, які ахапіў усе інстытуты ўлады, уключаючы Савецкую Армію, пагражае непрадказальнымі вынікамі. Ідэя стварэння нацыянальных узброеных сіл, якая выказвалася і раней, у апошнія дні стала для многіх відавочнай. Усе палітычныя партыі ў рэспубліцы падтрымалі гэту ідэю ў той або іншай ступені (за выключэннем хіба што КПБ). Прадстаўнікі партый, а таксама народныя дэпутаты Беларусі ад апазіцыі прынялі ўдзел ва ўстаноўчым з'ездзе Згуртавання беларускіх вайскоўцаў.

Пагадненне аб стварэнні надпартыйнага згуртавання было заключана раней. Пачалі ствараюцца суполкі беларускіх вайскоўцаў — і не толькі на Беларусі, але ў Маскве, Цверы і нават у Сібіры. Ход падзей паскорыў жнівеньскі путч. Часовыя структуры ЗБВ, яго каардынацыйная рада актывізавалі сваю дзейнасць, спрабуючы хоць нечым дапамагчы ў абароне дэмакратыі і нацыянальных інтарэсаў рэспублікі. Ужо ў верасні прайшла канферэнцыя згуртавання. І вось — з'езд.

Пра ўсё гэта нагадаў у сваім дакладзе старшыня ЗБВ падпалкоўнік М. Статкевіч. Паколькі «ЛіМ» неаднойчы расказваў пра мэты і задачы БЗВ, тут няма неабходнасці падрабязна пераказваць даклад. Варта толькі нагадаць, што сярод задач згуртавання — прапаганда ідэі стварэння ўзброеных сіл Рэспублікі Беларусь, патрыятычнае выхаванне вайскоўцаў, абарона правоў і сацыяльных гарантый для ўсіх, хто служыць на тэрыторыі рэспублікі, удзел у падрыхтоўцы адпаведных заканадаўчых актаў па стварэнні ўзброеных сіл Беларусі.

Зразумела, акрэсліць задачы прасцей, чым увасобіць іх у жыццё. Пакуль няясна, наколькі ўплывовай сілай стане Згуртаванне беларускіх вайскоўцаў, ці будзе з ім лічыцца афіцыйнае камандаванне, будучае міністэрства абароны рэспублікі. Ці не акажуць цяперашнія военачальнікі сур'ёзнае супраціўленне рэформам, адстойваючы сваё становішча?

Старшыня Саюза афіцэраў Украіны, народны дэпутат СССР палкоўнік В. Марцірасян, выступаючы на з'ездзе ў якасці госця, гаварыў аб тым, што камандаванне савецкіх узброеных сіл, у прыватнасці, у рэспубліках, генералітэт, у цэлым аказаліся на службе ў рэакцыйных сіл, скампраметавалі сябе і не здольны сёння абараняць інтарэсы суверэнных дзяржаў. А таксама—сацыяльныя інтарэсы простых вайскоўцаў. На думку палкоўніка, сёння неабходна збліжэнне і супрацоўніцтва афіцэраў Украіны і Беларусі ў вырашэнні шматлікіх і складаных армейскіх праблем. Госць з Кіева не ўстрымаўся ад рэзкіх ацэнак унутрыпалітычнай сітуацыі на Беларусі і характарыстык Вярхоўнага Савета рэспублікі. У выніку ў кулуарах з'езда прайшла даволі бурная дыскусія паміж старшынёй Саюза афіцэраў Украіны і народнымі дэпутатамі Беларусі. Праўда, скончылася яна мірна — запрашэннем госця часцей прыязджаць да нас.

Між тым, жыццё выстаўляе ўсё новыя праблемы, разабрацца ў якіх сапраўды не так проста. Скажам, нацыянальная гвардыя. У прынцыпе яе стварэнне неабходна. На з'ездзе вайскоўцаў прагучала нямала добрых слоў у адрас тых людзей, што запісаліся ў гвардыю ў дні надзвычайнай сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі і шмат зрабілі для аховы парадку ў тыя дні. Але вайскоўцы выступаюць супраць стыхійнасці і непрафесійнасці ў стварэнні нацыянальнай гвардыі. Гэтая пазіцыя знайшла сваё адлюстраванне ў пастанове, прынятай на з'ездзе. Адзін з яе пунктаў асуджае дзейнасць кіраўніцтва «так званай нацыянальнай гвардыі» як правакацыйную.

У зале, дзе праходзіў з'езд Згуртавання беларускіх вайскоўцаў, можна было бачыць беларускія сцягі і штандары, якія ўпершыню за многія стагоддзі былі ўзняты летась пад Грунвальдам, у гадавіну вялікай бітвы. Пра гэтыя сцягі, пра Пагоню, пра крыж Еўфрасінні Полацкай (эмблему ЗБВ), пра гісторыю беларускага войска, неад'емную ад гісторыі народа, гаварыў на з'ездзе старшыня БСДГ прафесар М. Ткачоў. Пад гэтымі штандарамі дэлегаты першага з'езда БЗВ у дзень яго адкрыцця рушылі ў сквер Янкі Купалы, дзе ў той вечар праходзіў канцэрт-маніфестацыя, прысвечаная незалежнасці Беларусі. І старшыня Згуртавання беларускіх вайскоўцаў прачытаў у прамой тэлетрансляцыі на рэспубліку зварот, прыняты на з'ездзе, да Вярхоўнага Савета, усіх партый, народа Беларусі.

**Віталь ТАРАС.**

### ВЫСТАВЫ

# БЫЎ. ЁСЦЬ. БУДЗЕ.

2 верасня ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, што знаходзіцца на вуліцы Горкага, 15, у Траецкім прадмесці, апошні дзень працавала выстава «Быў. Ёсць. Будзе», прысвечаная У. Караткевічу. Яна адкрылася 8 мая і ўзнавілася пасля летніх канікулаў.

Не сказаць, каб выстава рознілася ад іншых надта багатым матэрыялам. Не, хутчэй наадварот. Але на ёй патрэбна было пабываць. Чаго варты адзін толькі рукапіс аўтабіяграфіі, датаваны 1 снежня 1964 г. Жыццё Уладзіміра Сямёнавіча, адлюстраванае на фотаздымках, прадстаўлялася куды шырэй, чым у нядаўна выпушчаным у свет 8-томным зборы твораў. Кнігі з дароўнымі надпісамі, афішы да фільмаў і спектакляў, пастаўленых па творах пісьменніка, дыпломы, цудоўная сякера з надпісам «Караткевічу ад Віцьбічаў», іншыя экспанаты. Асаблівую ўвагу прыцягнулі асабістыя рэчы беларускага класіка, па якіх можна пазнаць Асобу: саламяны капялюшык, пашарпаны партфель, аўтаручка, чарнавікі, якія маглі б служыць узорам чыстапісання. Як паведала супрацоўніца залы І. Бархаткова, перад тым, як сесці за пісьмовы стол, Уладзімір Сямёнавіч апранаў бялюткую кашулю, выпіваў кубак кавы і надзяваў гальштук з беларускім узорам.

Але выставу давялося пакінуць... з непрыемным асадкам на душы. За два месяцы ў Траецкім пабывалі лічаныя людзі. Пра гэтае з жалем гаварылі супрацоўнікі музея, дый сам упэўніўся ў тым, правёўшы там цэлую гадзіну: ніводная жывая душа не наведала Караткевіча. А білет жа каштуе — смех дый годзе! — 10 капеек. Ці не варта згадаць, што на выставу, наладжаную раней крышнаітамі ў тым жа памяшканні, людзі ішлі, а кошт білета быў куды вышэйшы...

І ўсё ж Караткевіч быў, ёсць, будзе. Нягледзячы на тое, што выстава, яму прысвечаная, засталася па-за ўвагай тутэйшага люду...

**Юрась ДУБІНА.**

**З ПОШТЫ ТЫДНЯ**

## ЗОРКА РАДАСЦІ ЎЗЫШЛА

Хай беларуса ў гэты час
Шчаслівы сум агорне:
Ізноў вярнуліся да нас
І сцяг наш, і Пагоня.

Мы доўга да таго ішлі,
Пакутвалі, стагналі.
Шляхі крывавыя былі,
З агнём, свінцом і сталлю.

Мы векавечны сімвал — знак
Сваёй зямлі вярнулі,
І нашы продкі у трунах
З палёгкай уздыхнулі.

Спытайце ў горада, ў сяла:
Як жыць далей мы мусім,
Каб зорка радасці ўзышла
Над маці-Беларуссю!

Уладзімір ПАЛУПАНАЎ.

Лагойскі раён,
п/а Корань.

## ТРАПЕЧА БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ...

Трапеча бел-чырвона-белы
Над гарсаветам нашым сцяг,
І Гомель, часам спахмурнелы,
Змяніўся, быццам на вачах.

Ён адрадзіўся, сцяг Радзімы,
Ён, старажытны сімвал наш,
У нашы змрочныя гадзіны —
Не ў дні шчаслівыя, заўваж.

Вось так звяртаюцца да Бога,
Калі і гора нам, і боль,
І трэба ў чымсьці дапамога
Ды ненадзейна наша столь.

Але жыве той сцяг, трапеча,
Звініць, як звон жалезны дах.
Мінуюць смута і галеча —
Хай толькі ўецца родны сцяг!

Лявон МУШТЭНКА.

г. Гомель.

**РЭПЛІКА**

# Публіка «Рэспублікі»

Даўно назіраю за дзейнасцю сваіх калег з «Рэспублікі». Малайцы яны! Гэта ж так здорава прыдумалі назву сваёй газеце, так выдатна падганяюць пад яе змест! Іншы раз проста дзіву даешся, да чаго яны — газета «Рэспубліка» і наша рэспубліка — падобныя!

Глядзіце самі: загаловак у «Рэспубліцы» па-беларуску — назва нашай дзяржавы таксама беларуская: Рэспубліка Беларусь. Бел-чырвона-белы сцяг паднялі над Домам урада — у тытуле «Рэспублікі» ён таксама ёсць. Гаворыць Станіслаў Станіслававіч па-беларуску — галоўны рэдактар Мікалай Кернога таксама на дзяржаўнай мове падпісваецца. Не папулярная беларуская гаворка на вуліцах нашых гарадоў — не знойдзеш нашага слова і на старонках газеты. Праўда, выкапні беларускамоўныя дзенідзе сустракаюцца ў нашай рэспубліцы, дык і ў «Рэспубліцы» могуць сабе іншы раз дазволіць у Адамовіча, напрыклад, інтэрв'ю на «мове» ўзяць. Словам, знешне рэспублікі, вядома, беларускія, вось толькі беларускасцю не надта ад іх патыхае.

А шкада. Усё ж Закон аб мовах даўно дзейнічае. І суверэнітэт канстытуцыйны статус мае. Можна было б ужо і даць магчымасць беларусам не толькі загаловак газеты на сваёй мове прачытаць. А калі няма такой магчымасці, то навошта ж душой крывіць? Пісалі і друкаваліся б проста і ясна — на «великом и могучем». А для асабліва нацыяналістычных элементаў — подпіс рэдактара, хай бы сабе чыталі і радаваліся.

А калі сур'ёзна, то двухмоўе ў такіх прапорцыях на старонках газеты Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь — абуральнае. Як, прабачце, паважаныя калегі, мяркуеце вы абудзіць самасвядомасць чытача-беларуса, калі гэтая свядомасць адсутнічае ў вас? Ці разумееце вы, зрэшты, што займаецеся дыскрэдытацыяй беларускага ўрада, калі, скажам, у 16-ым нумары «Рэспублікі» па-беларуску толькі два абзацы: вытрымкі з урадавых пастаноў? Урад, маўляў, спрабуе загаварыць па-беларуску, а «Рэспубліка» з рэспублікай — не жадае! У такім выпадку словы Кастуся Каліноўскага на вашым лозунгу пра ўрад для народа ў цікавым кантэксце бачыцца: што ж ты, урад, паперадзе свайго народа бяжыш, мы ж па-беларуску не гаворым?!

Вісіць сёння на Ленінскім праспекце ў Мінску рэкламны транспарант газеты: «Шаноўная публіка! Толькі для вас з аператыўнымі навінамі газета «Рэспубліка!» Дык на якую публіку, паважаныя калегі, вы працуеце? Мо ўжо час працаваць на беларускі народ?

**ЛІМАВЕЦ.**

## РОК — ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

У мінулую суботу Беларускае тэлебачнне вяло прамую трансляцыю з канцэрта-маніфестацыі «Беларускі рок за незалежнасць», які праходзіў у Мінску ў скверы імя Янкі Купалы. Сярод удзельнікаў канцэрта былі папулярныя рок-гурты «Мроя», «Мясцовы час», паэт-бард С. Сокалаў-Воюш, калектыў з Польшчы «Альбаросіка» і інш.



Фота У. ПАНАДЫ.



**Глыбінка, «правінцыя», вёска... У бурапеннасці апошніх падзей мы, працаўнікі пяра, усё больш і больш «кансервуемся» ў межах сталіцы, быццам непрыкметна забываемся пра беларускі местачковы свет, жыццё якога, як высвятляецца, цячэ зусім не так, як у Менску. Ці па сваёй неабачлівасці, ці з-за ляноты мы зусім недарэчна губляем духоўную повязь з сялянскім светам, а сялянскі свет перастае разумець нас...**

**Дык, можа, паспрабуем выглянуць са сталічнага футляра і ўчуцца ў жывыя галасы местачкоўцаў — чыноўных людзей, інтэлігенцыі, сялян, паспрабуем зразумець, чым яны жывуць, аб чым дбаюць, як пасоўваецца беларусізацыя на вёсцы. І таму «ЛіМ» не абмежаваўся толькі тэлефоннай «радай» з глыбінкай — сам заглянуў туды, і, як вынік, чытачам прапануюцца свіслацкія абразкі Юрася ЗАЛОСКІ.**

# НАПАЧАТКУ БЫЛА ЗЯМЛЯ

## Свіслацкія абразкі

«Выйшаў сейбіт сеяць
семя сваё...»
Паводле ЛУКІ, 8:5.

**Аповяд пра моўнае развіццё правінцыі не выпадае пачынаць без уступнай зацінкі пра духоўнае жыццё вяскова-местачковага люду ўвогуле, ці — правінцыйную ментальнасць, якая вымагае зусім іншага падыходу, чымся ментальнасць гарадская. Пра сучаснае засценкава-патаемнае жыццё нашай глыбінкі і надрукавана вельмі небагата, а калі й прабіваецца нешта ў рэспубліканскім друку — дык моцна дэкларатыўна, адарвана ад жывых галасоў і жывых, непапяровых пачуццяў.**

**Вось каб акунуцца ў жывыя пачуцці і назіранні людзей, я і вырашыў апусціцца на мясцовую глебу — у найбольш аддалены ад сталіцы прыгранічны раён Гродзенскай вобласці — Свіслацкі.**

## ЯВА ПРАВІНЦЫІ

Беларуская правінцыя жыве заспакоеным, узлагоджаным, нетаропкім жыццём. Жыццём застылым, у духоўным плане, можна сказаць, — кансерватыўным. Вёска спраўна выконвае адвечны кругаход сялянскіх абавязкаў: калі я прыехаў на Свіслаччыну, якраз заканчвалася капанне бульбы, у якім традыцыйна ўдзельнічае школьніцтва ад 11 гадоў і настаўнікі.

Што складае духоўнае жыццё беларускай правінцыі? Свіслаччына, напрыклад,— адзін з заходніх раёнаў Беларусі, каля 18 працэнтаў насельніцтва якога складаюць палякі (якія, дарэчы, жывуць вельмі кампактна, асобнымі прыпушчанскімі вёскамі), багата палякаў (ці — палякóў?) — у мястэчку Поразава, якое пачынае сваю гісторыю ад 1523 года і ў якім яшчэ ў мінулым стагоддзі амаль побач пабудаваны царква і касцёл.

Да нядаўняга часу грамадскую думку тут фармавалі партыйныя ўлады, якія ў верасні падаліся ўпрочкі — шукаць дзесьці новыя пасады, многія з колішніх «персекаў» і іншых «-секаў» перакачавалі на адміністрацыйна-кіраўнічыя (зноў жа!) пасады, зрабіўшыся буйнымі спецыялістамі ў галіне бытавога абслугоўвання насельніцтва і да т. п. У суседнім, напрыклад, Бераставіцкім раёне, першы сакратар РК КПБ стаў... дырэктарам фабрыкі спартыўнага адзення, хаця шавецкай справе ў ВПШ яго наўрад ці вучылі... Але — жыць неяк жа трэба, і пажадана, не «абы-як».

Многія, з кім давялося гаварыць, лічаць, што партыя пахавана назаўсёды. Хаця яшчэ напрыканцы верасня ў Навасадскай няпоўнай сярэдняй школе давялося ўбачыць ультрасавецкі і да таго ж непісьменны лозунг «Перастройка — працяг вялікіх здзяйсненняў, пачатых Вялікім Кастрычнікам».

Праўда, за месяц пасля путчу адчувальна змянілася танальнасць раённай газеты, колішняга партыйнага рупара, якая да новага года яшчэ будзе называцца «Заветы Ильича» і большасць матэрыялаў друкаваць па-руску, але ўжо ёсць рашэнне райвыканкома зрабіць газету беларускамоўнай і свецкай, а не ідэалагічнай.

Змены ў Менску ўспрыняты тут іранічна, бо ніхто іх тутака асабліва не чакаў і тым болей не падштурхоўваў. У дзень майго прыезду нарадзілася новая плётка — навацыя ў духоўным жыцці — пра паводзіны кіраўніка справамі райвыканкома, які яшчэ месяц таму цешыў абывацеля сваёй артадаксальнай партыйнасцю, а цяпер ці не першы ў раёне вывесіў на сваім доме бел-чырвона-белы штандар. «Бач ты — загадзя рыхтаваўся», — пераказвалася між сабой тутэйшая інтэлігенцыя. Што ж, людзі неспадзявана пачалі мяняцца і тут, на падляшскім ускрайку Беларусі.

Вось такім чынам пастукалася ў дзверы правінцыі вераснёўская, прабачце, рэвалюцыя. Мясцовы кансерватызм адчувальна спарушаны, што выклікае і прыўзнятасць, але разам з тым і традыцыйны недавер вяскоўцаў. Людзі асцерагаюцца сталічнай заварухі, бо ўсё жыццё змены ў сталіцы толькі тужэй зацягвалі хамут на сялянскім карку, а што будзе цяпер — пакуль невядома. Хаця некалькі разоў у гутарках са мной мясцовыя жыхары разважалі прыблізна так: «Вайна будзе — вось што. Думаеш, немец сцерпіць, што Польшча займае іхнюю тэрыторыю? Не, не сцерпіць. А Польшча тады захоча ізноў раскінуцца да Стоўбцаў. Будзе вайна». Тым не менш, да прывітання з ФРГ, якое ў паветраным шарыку апусцілася на адзін з палеткаў у вёсцы Ляскі, сяляне паставіліся прыязна: усё-ткі падзея міжнароднага ўзроўню!

Людзі часта ўспамінаюць, «як было пры Польшчы» (савецкая ўлада ўсталявалася на гэтай частцы Беларусі фактычна ў канцы 40-х — пачатку 50-х гадоў, а датуль існавала аднаасобная гаспадарка). Падобныя ўспаміны гучаць з нейкай ідылічнай заварожанасцю: колькі і якой мелася ў карыстанні сваёй зямлі, колькі трымалі кароў, коней, як сеялі і які смачны быў свой хлеб. Пра савецкія ж часы — амаль заўсёды з моцнымі слоўцамі. «Бальшавік толькі на картовыя нагавіцы даваў зарабіць»,— чамусьці ўжо ў мінулым часе гаварыў вясковы каваль з Навасадаў, мазур, якіх сюды з Беласточчыны пераехала багата.

Памяць пра «польскія часы» трывалая, але звязана гэта хутчэй за ўсё не з Язэпам Пілсудскім, а з уласным гаспадарствам, якое месцамі трымалася да 1952 года. Можа, таму тут пашыраны зварот «гаспадар» (слова «спадар» тутэйшы люд покуль, праўда, не навучыўся вымаўляць, часцяком кажуць «спáдар»). Многіх сялян абразіла слова «панове», якое аднойчы зраніцы, верагодна, памылкова ўжыў радыёдыктар.

Актыўныя спрэчкі мясцовага маштабу выклікала, як гэта ні дзіўна, абранне Старшынёй Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча. «Ці не паляк ён, таварыш журналіст?» — не адзін раз гэта было першае сустрэчнае пытанне да мяне, якое, шчыра кажучы, перш бянтэжыла, бо ў мінскіх кулуарах, прынамсі, чуць яго не даводзілася. «А вось пшэкі (так тут клічуць палякаў. — **Ю. З.**) здзекліва шыпяць: дзе вы, маўляў, чулі беларускае імя Станіслаў? У беларусоў нема тако імя: Шушкевіч — гэта наш, паляк». Так дагэтуль у часткі мясцовага насельніцтва і няма ўпэўненасці, што Шушкевіч папраўдзе з'яўляецца беларусам.

І, нарэшце,— спрэс непаразуменне, адкуль узяўся герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг. Раённая газета збіраецца друкаваць нешта з гісторыі, але, па ўсёй бачнасці, для Свіслаччыны новая сімволіка на першым часе станецца такой жа загадкай сфінкса, як у свой час савецкая атрыбутыка, устаноўленая на пачатку 50-х.

Такім чынам, ідэёвае жыццё правінцыі гэткім — ідэёвым — можна назваць толькі дужа ўмоўна. Дамінуе звыклы, дзесяцігоддзямі адшліфаваны гаспадарчы кругабег, прыцяжэнне зямлі, а не асфальту. Можа, гэтае прыцяжэнне і ўратавала ў беларусах беларусаў?

## САМАТВАРЭННЕ Ў ДЗІЦЯЧЫМ САДКУ

Калі казаць, дзе Закон аб мовах выкананы цалкам,— дык гэта ў свіслацкіх вёсках, у якіх людзі гаварылі і гавораць на добрым заходнім дыялекце, з прымешкам паляшуцкіх выказаў — накшталт «мамо», «тато» і інш. Мясцовы гісторык-энцыклапедыст Аляксандр Сямёнавіч Палубінскі нават сцвярджае, што менавіта на тэрыторыі Свіслаччыны, дзе ў сівой мінуўшчыне жылі яцьвягі, сфармаваліся такія характэрныя рысы беларускай мовы, як «дзеканне», «цеканне», плаўнасць і мілагучнасць.

З верасня гэтага года ўсе школы раёна рашэннем райвыканкома набылі статус беларускамоўных. Рашэнне было рэкамендавана па лініі народнай адукацыі ад Менска да раёнаў і па лініі абласной выканаўчай улады. Так што можна лічыць, што ў Свіслацкім раёне сёлета беларусізацыя праведзена поўнасцю. Але гэткая аператыўнасць тлумачыцца не толькі патрыятызмам мясцовых улад, а таксама і тым, што беларускае школьніцтва ў раёне ўвогуле не знікала: усе школы былі беларускамоўнымі, за выняткам школ райцэнтра Свіслачы і

(Працяг на стар. 14—15).

ЧАС І МЫ

# МІФ І РЭАЛЬНАСЦЬ

## Зноў да «пытання аб КПБ»

СЁННЯ грамадства прад'яўляе камуністычнай партыі суровы, але справядлівы рахунак. Аднак пакаяцца перад народам за злачынствы, учыненыя ёю за дзесяткі гадоў свайго непадзельнага панавання, павініцца за жабрацтва мільёнаў людзей кіраўніцтва КПБ не збіраецца. Гэта яшчэ раз пацвердзіла нечарговая верасноўская сесія Вярхоўнага Савета Беларусі, якая намаганнямі дэпутатаў-камуністаў перашкодзіла прыняць адзінае правільнае рашэнне: спыніць дзейнасць КПБ.

Між тым, у КПБ, пачынаючы з 1985 года, быў шанц адмовіцца ад сваіх унутраных карыслівых інтарэсаў, павярнуцца тварам да народа, рашуча адысці ад сваёй антынацыянальнай палітыкі. На жаль, карпаратыўныя, шкурныя інтарэсы партыйнага кіраўніцтва перамаглі здаровы сэнс і гэты раз.

Кіраўніцтва КПБ і не збіралася адмаўляцца ад сваіх замшэлых міфаў, догм і ад сваіх у шмат якіх адносінах амаральных метадаў работы. Да апошняга часу вярхушка ЦК КПБ, камуністычны друк заклікалі захоўваць вернасць нінаандрэеўскім бальшавіцкім ідэалам і трымаліся за іх, як сляпы за плот. Тым самым дэманстраваліся негатыўныя адносіны да праводзімых у краіне палітычных і эканамічных рэформ. Былі зведзены на нішто магчымасці аздараўлення камуністычнай партыі, верагоднасць яе павароту да рэальных патрэб чалавека. Пастаянная аглядка, арыентацыя верхаводаў КПБ на мінулае пры летаргіі партыйных мас перашкодзіла выпрацоўцы адэкватных сучаснаму становішчу грамадства палітычных і філасофскіх канцэпцый і з'явілася галоўным тормазам, які перашкодзіў зразумець новыя з'явы грамадскага жыцця і адмовіцца ад бесперспектыўнай палітыкі.

Кіраўнікі кампартыі і многія навукоўцы з разраду прывілеяваных грамадазнаўчых навук, пагаджаючыся са сваімі апанентамі ў агульнай ацэнцы крызіснага стану эканомікі, не асмельваюцца адкрыта прызнаць, што пачатак абуджаных, але ашуканых спадзяванняў і перспектыў, як і пачатак усенароднай бяды, быў пакладзены ў кастрычніку 1917 года, што карані сённяшняй разрухі ў тым самым «сацыялістычным выбары», які каштаваў народу многіх мільёнаў чалавечых жыццяў, незлічоных пакут, крыві і слёз, на якіх узводзіўся падмурак сацыялізму. Цяпер, як і раней, партыйныя паны, падбадзёрваючы сябе гучнымі лозунгамі, дэмагогіяй і хлуснёй, зноў нацягваюць на сябе мундзіры народных заступнікаў, дэмакратаў, б'юць у барабаны, заклікаюць у новы паход сядлаць Расінанта... Няўжо зноў удасца ашукаць народ?

Неўміручае наменклатурнае племя ўжо даўно адарвалася ад народа, ад партыйных мас і ніяк не хоча заўважаць, што апынулася ў тупіку. Запрашаю паразважаць: ці трэба ратаваць такую партыю, якая даверліва і паслухмяна ідзе за сваімі павадырамі, якія не маюць дакладных навігацыйных карт і компаса, да таго ж дрэнна ўяўляюць порт прызначэння, хоць ён усё больш і больш вызваляецца ад утапічнага туману?

У апошнія гады сілай вядомых абставін узніклі такія праблемы, на якія сумленнага і абгрунтаванага адказу ў абаронцаў «сацыялістычнага выбару» няма. І гэта яны разумеюць, бачаць, што глеба хістаецца ў іх пад нагамі, адчуваюць, як свежыя ветры непазбежных змен трывожаць іх звыклы камфартабельны свет. Час выявіў утапічнасць камуністычнай дактрыны, заганнасць тых сродкаў і метадаў, якімі яна праводзілася ў жыццё і суправаджалася няспыннай вайной з народам.

Яшчэ адным прыкладам таго тупіка, у якім апынулася камуністычная эліта, служаць яе адносіны да культуры, да беларускага нацыянальнага адраджэння. У друку нямала гаварылася аб гэтым, дастаткова абгрунтавана паказвалася і тое бядотнае становішча, той заняпад, у якім у выніку палітыкі КПБ знаходзіцца наша культура ў апошнія дзесяцігоддзі. Здавалася б, абсалютна бясспрэчны факт.

Аказваецца, у лідэра беларускіх камуністаў А. Малафеева зусім процілеглы погляд на гэта пытанне. У адным з апошніх яго артыкулаў «Можно ли не считаться с истиной?», змешчаным сёлетнім летам у «Народнай газеце» і іншых выданнях, можна прачытаць такое: «Но отнюдь не идеализируя эту политику, смею утверждать, что в 60—70-е годы наблюдался не упадок, а подъем народного образования, науки и культуры Белоруссии...»

Прыпынім цытаванне і звернемся да фактаў, якія, як вядома, упартая рэч. Фактаў, якія б пацвярджалі гэтыя вывады, няма, а тыя, што ёсць, сведчаць аб адваротным.

Грамадскасці добра вядома, што ў 60—70-я гады кіраўніцтва КПБ сапраўды дасягнула несумненных поспехаў у тым, каб вытруціць у свядомасці народа яго гістарычную памяць, атрафіраваць у многіх сумленне, здольнасць да самастойнага мыслення. Менавіта кіруючая партыйна-бюракратычная сістэма была перашкодай на шляху да ўстанаўлення гістарычнай справядлівасці — то ў адносінах да бязвінна рэпрэсіраваных пісьменнікаў, вучоных, то да несправядліва раскрытыкаваных і забароненых твораў, то да гвалтоўна затрыманай у свой час духоўнай спадчыны, то да знявечанай хлуснёй нацыянальнай гісторыі. Прыкладаў — не злічыць.

Гэта і была палітыка ЦК КПБ, у дачыненні да якой і сёння не саромеюцца прымяраць толькі ласкавы эпітэт «не ідэальная». Што ж гэта за палітыка, якая ўвесь час прымушала нас з боем аднаўляць растаптаную справядлівасць, у тым ліку і ў адносінах да сялян, гвалтоўна запрыгоненых калектывізацыяй, у выніку чаго мы вымушаны хадзіць з торбай па свеце, каб жабраваць у тых самых капіталістаў, для хаўтур якіх 73 гады пасля рэвалюцыі рылі дол і скалочвалі труну?

У сцвярджэнні А. Малафеева адносна «пад'ёму» культуры вытыркаюцца вушы наўмыснай няпраўды. Няўжо ён забыў на тое, што ў 60—70-ыя гады вядомы тэарэтычны прагноз навукова-камуністычнага гатунку аб непазбежнасці «поўнага добраахвотнага зліцця» ўсіх нацый, моў і культур асабліва паслядоўна і энергічна стаў ажыццяўляцца кіраўніцтвам КПБ (і тут перадавікі!)? Беларусь была ператворана ў палігон для розных сумніцельных эксперыментаў.

Між тым ніхто з маскоўскіх мудрацоў сталінска-брэжнеўскай эпохі, ужо не кажучы пра мінскіх, не паруліўся растлумачыць народу: каму і навошта гэта патрэбна, якой гістарычнай неабходнасцю выклікаецца? Нарэшце, якім прынцыпам марксізму-ленінізму супярэчыць адваротнае дапушчэнне — захаванне разнастайнасці: этнакультурнай, этнапсіхалагічнай, моўнай?

Зусім «забыў» А. Малафееў пра тое, што ў 60—70-ыя гады праблема беларускай мовы — праблема маральнага стану грамадства і духоўнага здароўя нацыі — вырашалася фактычна адназначна: мова беларусаў, на думку верхаглядаў, павінна адмерці і чым хутчэй, тым лепш. Для ажыццяўлення гэтай мэты быў прыняты дыскрымінацыйны закон, які настойліва і ўпарта (у адрозненне ад цяперашняга) праводзіўся ў жыццё партыйна-адміністрацыйнай сістэмай. Вывучэнне беларускай мовы і літаратуры ў школах не мела абавязковага характару.

А можа, аб «подъеме» навукі і культуры Беларусі сведчыць адміністрацыйны бандытызм, які быў учынены ў тыя гады да групы навуковых супрацоўнікаў АН БССР «в назидание» і для пастраху сучаснікам і патомкам? І за што? За спробы сумленна служыць навуцы, свайму народу, абудзіць страчаную памяць, за навуковую аб'ектыўнасць, што не супадала з «мнением» ідэалагічнай службы ЦК КПБ і адпаведным чынам цкавалася. Усё гэта добра памятаецца навуковай і творчай інтэлігенцыяй рэспублікі.

У 60—70-ыя гады партыйна-адміністрацыйны дыктат над усімі праявамі свабоднага чалавечага духу самым згубным чынам выявіўся і на развіцці беларускай літаратуры, літаратуразнаўства, літаратурнай крытыкі. Не кажучы ўжо аб «забароненых тэмах», на любую тэму магло быць накладзена «табу», дастаткова было званка з ідэалагічнай установы ў рэдакцыю ці выдавецтва. Твор мог цкавацца і быць забаронены і на падставе пісьма ў высокія інстанцыі, скажам, ветэранаў вайны, якія, як вядома, дасканала разбіраюцца ў любых, у тым ліку і творчых праблемах, ці пісьмаў даярак, меліяратараў і г. д., якія зноў жа заўсёды прачытваюць і разумеюць твор значна глыбей, чым самі пісьменнікі або нейкія недарэкі — прафесійныя крытыкі. І паводле такіх пісьмаў беспамылкова «заўважалі» ў аповесці або п'есе ідэалагічны крымінал, гэтак званае «ачарненне» рэчаіснасці ці «дэгераізацыю».

У той жа час прапагандаваліся, уздымаліся на шчыт творы не з прычыны іх глыбокага і праўдзівага пранікнення ў вострыя праблемы сучаснасці і гісторыі, а з-за таго, што яны адыходзілі ад гэтых праблем, з прычыны іх кан'юнктурнай прыгладжанасці. Узнагародамі часцей заахвочвалася страявая выпраўка розуму і сумлення, калі не было апаскі, што мастак — свой брат па духу, не збівае начальства з панталыку падтэкстам ці алегорыямі, мысліць проста і ясна і паказвае, што праўда і справядлівасць заўсёды перамагаюць, бо ў канцы твора «выруліць» мудры партыйны архірэй, які, канечне ж, выправіць ненармальнае становішча або нават пакарае зло.

Думка аб «подъеме» культуры ў 60—70-ыя гады мае самы што ні на ёсць прынцыповы і практычны сэнс. Выходзіць, што тады адносіны да культуры былі выключна спрыяльныя, а калі так, то і цяпер не трэба нічога мяняць, а неабходна працягваць і развіваць тыя традыцыі, якія вялі да «ўздыму». Ці не таму ў духу гэтых слаўных традыцый па сутнасці ўся беларуская літаратура была нядаўна апляванна чарговай абразлівай хлуснёй у сумнавядомым «Политическом собеседнике», баявым органе ЦК КПБ? Свае сапраўдныя адносіны да культуры ЦК КПБ выявіў і ў сваёй адмове дапамагчы філфаку БДУ — флагману беларускай філалагічнай навукі. Грамадзяне народныя заступнікі, з кім змагаецеся?

Беларуская культура вырастала ў неспрыяльных умовах, прывыкла да нягод, але не змірылася з імі. У лепшых сваіх узорах яна не была служкай, падуладнай ідэалагічным скразнякам. Нягледзячы ні на сталінскі тэрор, ні на шальмоўства і знявагі, якія чыніліся і чыняцца ў адносінах да яе прадстаўнікоў, яна выжыла, але не з ласкі партакратыі, а насуперак ёй.

Жаданне зноў загнаць разняволеную думку чалавека ў рэзервацыю рэальнага сацыялізму, з якога з-за класавых прыярытэтаў не было відаць прасвету і надзеі на нармальнае чалавечае жыццё, настальгія па манапольным праве на ісціну ў апошняй інстанцыі рухае пяром тых, хто працягвае, насуперак вядомым фактам, скажаць і без таго скалечаную рэпрэсіямі гісторыю нашай культуры. Такое ж імкненне захаваць баланс паміж «памылкамі» і «дасягненнямі» выразна прасочваецца і ў артыкуле «Можно ли не считаться с истиной?».

Не збіраюся ўступаць у палеміку з А. Малафеевым адносна палітычнай постаці вядомага дзеяча П. М. Машэрава: я не кампетэнтны ў гэтай праблеме. Але хацеў бы задаць зусім не рытарычнае пытанне: хто дапускаў тыя так званыя памылкі, ці не настала пара назваць пайменна і заклікаць хоць бы да маральнай адказнасці тых, хто глуміўся над нашай культурай, хто разбураў асновы народнага жыцця?

Прачытайце і сёння некралог, прысвечаны адышоўшаму ў нябыт чарговаму пенсіянеру саюзнага ці рэспубліканскага значэння — і вы пачуеце, як звіняць медалі ў кожным слове гэтага некралога. Аказваецца, кожны з іх быў верным байцом партыі, дзейнічаў прынцыпова і беспамылкова, шмат зрабіў, заслужыў і г. д. Так, служыў усімі праўдамі і няпраўдамі, але — каму служыў?

Нехта скажа: мусіць, памыліўся А. Малафееў. Размова не пра памылкі, а, калі гаварыць усю праўду, пра палітычнае шулерства, якое выявілася ў пытаннях культуры ў артыкуле з прэтэнцыёзнай назвай «Можно ли не считаться с истиной?» Выходзіць, што можна, Вам — можна, Анатоль Аляксандравіч, вам — усё можна...

На працягу шэрагу дзесяцігоддзяў на вачах у людзей кіраўніцтва КПБ-КПСС паступова, але няўхільна падрывала і падарвала веру ў справядлівасць, скампраметавала і дыскрэдытавала больш, чым усе разам узятыя буржуазныя ідэалагічныя цэнтры, саму камуністычную ідэю. Сёння ў яе ажыццяўленне мала хто верыць. Гэта гістарычная расплата за шматгадовую палітыку падману, за ўсё тое, што рабілася назло, насуперак інтарэсам народа. Ад усеагульнага расчаравання і абурэння, ад сваёй адказнасці кіраўніцтва ЦК КПБ хацела схавацца за штыкамі надзвычайнага становішча. А сёння адэпты КПБ на ўсіх перакрыжаваннях крычаць, што яны не мелі ніякіх адносін да маскоўскага камуністычнага путчу. Што тут сказаць? Хутка забыліся, як А. Малафееў патрабаваў увесці надзвычайнае становішча і як гэта ідэя ў партыйных чыноўнікаў знізу да верху сустракалася бурнымі воплескамі.



З архіва «ЛіМа»: А. Малафееў і У. Грыгор'еў. Фота А. ШАБЛЮКА.

У вольнай Беларусі наперадзе цяжкі шлях. Неабходна нанава сцвердзіць сацыяльную справядлівасць, вярнуць свабодзе яе пасад, народу — вярхоўную ўладу, чалавеку — уласнасць, аднавіць панаванне розуму і справядлівасці.

На гэтым шляху — велізарная перашкода ў выглядзе камуністычных забабонаў, міфаў, прывілей, хлусні, гвалту і нялюдскасці, што злавеснымі ценямі навісаюць з камуністычных бастыёнаў над пакутным народам.

**Анатоль МАЙСЕЕНКА,**
**дацэнт Мінскага інстытута культуры.**

# Супрацьстаянне часу

Нам ЯШЧЭ далёка да аднаўлення поўнай карціны развіцця беларускай літаратуры. Няпоўнай яна была і без нядаўна выйшаўшага ў свет рамана Уладзіміра Дамашэвіча «Камень з гары», кнігі, якая падзяліла лёс шматлікіх своечасова напісаных і з крыўдным спазненнем надрукаваных твораў.

У змесце рамана, гісторыі яго стварэння, доўгага чакання свайго часу ў стале аўтара адлюстраваліся розныя этапы станаўлення беларускай савецкай літаратуры. Я думаю, па кнізе У. Дамашэвіча можна весці цікавыя даследаванні дынамікі літаратурнага працэсу 50—60-х гадоў.

Першыя падзеі твора адбываюцца ў другой палове 50-х гадоў. Гэты час у літаратуры азначаны гістарычным супрацьстаяннем «канцоў» і «пачаткаў», культаўскіх эстэтычных догм і набіраючых моц перадавых таленавітых сіл. Яшчэ ўпэўнена сядзяць на адміністрацыйных пасадах няўхільныя выканаўцы партыйных пастаноў у мастацтве. Іх крытэрыі мастацкасці — вернасць нарматывам, прадпісаным кімсьці зверху, усхваляванне сацыялістычнай грамадскасці, непарушнасць камуністычнай ідэалогіі. Творам, якія адпавядаюць гэтым патрабаванням, заўсёды даюць зялёную вуліцу дырэктар выдавецтва Важнік, галоўны рэдактар Быліна.

Але ўжо не могуць ніякія жалезныя законы стрымаць новую магутную плынь літаратараў, што «...пішуць смялей, лепш і глыбей, чым пакаленне, якое сфарміравалася ў цяжкі перыяд культу асобы Сталіна». Кожны з маладых пісьменнікаў мае сваю творчую індывідуальнасць, кожная іх кніжка, нават першая, падрывае каноны сацыялістычнага рэалізму. З іх творамі ў літаратуру ўрываецца подых сапраўднага жыцця, сама праўда, амаль несуадносная з літаратурай нядаўняга пасляваеннага часу.

Пісьменнік Каралевіч, пашыраючы тэматычны дыяпазон айчыннай прозы, звярнуўся да сівой даўніны сваёй Радзімы, адкрыў, «што і ў нас ёсць мінулае, ёсць гісторыя, не горшая, чым у людзей, і нам ёсць чым ганарыцца...» «Вастрынёй і нязвыклай трактоўкай ваеннай тэмы» вызначылася аповесць Базылевіча «Жураўліны клін». «Ва ўсёй аповесці менавіта навізна і смеласць. Навізна не тэмы, а падыходу да тэмы, кампазіцыя, будова аповесці, паказ унутранага свету герояў». Плённыя намаганні ў першую чаргу аўтараў вясковай прозы адвялі навалу «нейтральнага» стылю, «зайздросна» ўзбагацілі слоўнікавы запас. Так, у незвычайнай «імпрэсіяністычнай манеры» напісаны раман Драздова «На берагах Віліі», і гэта не «манернічанне», як лічыць крытык Ярашэвіч, а, па словах самога маладога празаіка, мова, «на якой гавораць у нас, якой гавару сам».

Безумоўна, чытач адразу здагадаўся, якія прататыпы схаваны за выдуманымі імёнамі. Амаль поўная ідэнтычнасць мастацкага вобраза і жыццёвых рэалій, як і мастацкія прыёмы пратакольнага запісу, паўтору, надаюць гістарычную дакладнасць матэрыялу. І ўсё ж хацелася б, каб зварот у мастацкім творы да прозвішчаў «вялікіх» людзей адпавядаў высокім патрабаванням: каб такія вобразы не ўпаміналіся «всуе», каб былі акрэслены яны выразнымі, непаўторнымі, асабіста аўтарскімі дэталямі. Аднак падыходзіць з сягонняшнімі меркамі да твора, гаворачы тэкстам самога рамана, «было б несправядліва». Калі У. Дамашэвіч пісаў раман, не надта шмат добрых слоў было сказана ў адрас Быкава, Караткевіча, Брыля, Адамовіча.

У гісторыі стварэння рамана «Камень з гары» ўвасоблены асаблівасці пераходнага перыяду ў гісторыі нашага грамадства. Твор змог нарадзіцца на свет толькі ў выніку наватарскіх пошукаў пісьменнікаў новага пакалення канца 50-х — пачатку 60-х гадоў. Але праца над раманам завяршалася ўжо ў той гістарычны час, калі закончылася натхняючая палітычная адліга і зноў над мастакамі навісла ідэалагічная прыгонная залежнасць.

У паэтыцы, сюжэтна-кампазіцыйнай структуры, мастацкіх вобразах адлюстраваліся аўтарскія намаганні знайсці свой стыль, сказаць аб сваім часе сваё слова, супрацьлеглае афіцыйнай «несвабоднай» прозе. У процілегласць лакіраваным замалёўкам сацыялістычнага жыцця, якія пераважалі ў творах савецкіх пісьменнікаў той пары, аўтар рамана «Камень з гары» акцэнтаваў увагу на сучаснай рэальнасці, рэчаіснасці быцця. Ён паказаў савецкага чалавека не на гіганцкіх будоўлях — там, дзе «зліваюцца рэкі», а ў сям'і, побыце.

Галоўны герой твора Драгун — асоба неардынарная. Ён займае пасаду рэдактара кніжнага выдавецтва, і, галоўнае, сам піша. Ён сапраўдны літаратар. З масы шэрай літаратуры рэдактар Драгун адразу вылучае дабротныя, таленавітыя рэчы, першы дае станоўчую рэцэнзію на кнігу Базылевіча. Адданая мастацтву натура, ён мужна адстойвае сапраўдную літаратуру перад выдавецкай цэнзурай, дапамагае, «каб добрыя творы ўбачылі свет, каб выхоўвалі, адкрывалі вочы тым,

**Твор, які не здолеў пабачыць свету цэлыя два дзесяцігоддзі, вядома ж, не мог быць абмінуты крытыкай. Наталля Капшай, выкладчыца ГДУ імя Ф. Скарыны, лічыць, што падыходзіць з сучаснымі меркамі да рамана У. Дамашэвіча «Камень з гары» («Мастацкая літаратура», 1990) было б несправядліва. Таіса Грамадчанка, паставіўшыся з вялікай павагай да твора, тым не менш, адзначае яго недастатковую мастацкую абагуленасць, «замкнутасць жыццёвай прасторы». Ці так гэта, меркаваць чытачам...**

# Сустрэча праз дзесяцігоддзі

Уладзімір Дамашэвіч абраў нялёгкі шлях у жыцці. Менавіта абраў, бо мог бы, як многія іншыя, як большасць нас, сцяўшыся душой, таксама ісці на кампрамісы, прыстасоўвацца, пагаджацца. Але ён так не рабіў. Яго слова, грамадзяніна і чалавека, гучала на пісьменніцкіх сходах і з'ездах, у чытацкіх аўдыторыях. Выказаць свой боль, гнеў, трывогу на старонках кніг або артыкулаў ён не мог і выкарыстоўваў, бадай, адзіную па тым часе магчымасць не маўчаць. Для адных яго слова было глытком свежага паветра, прыкладам смеласці і мужнасці, для другіх — той праўдай, пра якую не хочацца ні чуць, ні ведаць, бо парушаецца звыклы спакой, для трэціх — перабольшаннем, ахайваннем святынь. Гэтыя трэція, а яны займалі месцы ў прэзідыуме і ганаровым першым радзе, калі называлася прозвішча У. Дамашэвіча, міжволі ўгіналі галовы, апускалі вочы. Гаварыў пісьменнік пра катастрафічнае становішча роднай мовы, пра духоўнае спусташэнне чалавека, пра занядбанне традыцый, страту гістарычнай памяці, знікненне ў народа нацыянальнай самасвядомасці...

Толькі чаму гаварыў? Не маўчыць У. Дамашэвіч і сёння. Аднак (о парадоксы нашага часу!) голас пісьменніка ці не губляецца побач з іншымі, больш моцнымі і добра пастаўленымі, уладальнікі якіх сталі аднадумцамі У. Дамашэвіча нядаўна, у выніку змен у грамадстве.

Вядома, актыўная грамадзянская пазіцыя пісьменніка не спрыяла хуткаму і лёгкаму выхаду ягоных кніг да чытача. Яны траплялі пад асаблівы кантроль, часцей за іншыя забараняліся, адсоўваліся ў плане, аднак «вінаватымі» былі і самі творы. У іх уздымаліся вострыя, нязвыклыя праблемы, прысутнічала праўда жыцця, якую моцныя свету гэтага лічылі непатрэбнай. Так, у аповесці «Кожны чацвёрты» У. Дамашэвіч паказаў, як вайна разбурае чалавечае ў чалавеку: звыклы да жорсткасці і смерці, ён помсціць не толькі ворагу. Шлях гэтай аповесці ад часопіснай публікацыі да кнігі аказаўся доўгім.

У анатацыі да рамана «Камень з гары» паведамляецца, што рукапіс праляжаў у аўтара дваццаць гадоў. Не ведаю, разлічваў на гэта пісьменнік ці не, але, прачытаўшы пра «дваццаць гадоў», міжволі пранікаешся павагай да твора: калі не пускалі, значыць, было за што. І чакаеш нейкай асаблівай «вастрыні».

Праўда, сучаснага чытача нечым здзівіць ужо досыць цяжка. Ён паспеў адаптавацца да ўсяго балючага, што адкрылася на восьмым дзесятку існавання савецкай дзяржавы. Але для свайго часу «вастрыні» ў рамане не хапала. Не толькі ў канцы 60-х, а і пазней, не мог трапіць на вока чытачу, напрыклад, наступны дыялог:

«— А чаму рускі ў Мінску не хоча гаварыць па-беларуску?

— Навошта яму? І так ён усё разумее.

— То навошта ж нам падладжвацца пад яго?

— Хочаш не хочаш, падладзішся... Пойдзеш да дырэктара што падпісаць ці да начальніка цэха, дык што, будзеш яму па-вясковаму тлумачыць? Спытаеш па-руску. Ён мо і сам беларус, але чалавек адукаваны, даўно забыў сваё...»

Героі У. Дамашэвіча не толькі, што называецца, канстатуюць факт, але даходзяць да разумення таго, хто зацікаўлены ў занядбанні народам сваёй мовы і чаму. Не дапускаліся ў тагачасную літаратуру і рэзкія ацэнкі асобы Сталіна.

Але калі ад «вострых» мясцін, бы ад сучкоў на дрэве, пры жаданні можна было пазбавіцца, і дрэва (твор) заставалася б жывым, хоць і знявечаным, то характар галоўнага героя рамана Кастуся Драгуна для такой «аперацыі» не падыходзіў. Штосьці «прычасаць», змякчыць у ім здаецца немагчымым. Характар героя выяўляецца і праяўляецца не ў нейкіх адзінкавых надзвычайных сітуацыях, якія маланкай высвечваюць галоўнае ў чалавеку, а ў аднастайнасці будняў. У кожным сваім учынку і кроку Драгун фактычна роўны самому сабе. Гэта, вядома, не значыць, што ніякіх змен з ім не адбываецца. Проста ён не можа прыстасоўвацца, змаўчаць, схітраваць, схавацца за таварыша, як і браць горлам, выбіваць для сябе і сям'і нават самае неабходнае.

Фінал у такіх людзей вядомы (вядомы, аднак, больш па жыцці, чым па літаратуры): скарочаныя ці звольненыя, яны не могуць уладкавацца на працу, няма ладу ў сям'і. У. Дамашэвіч прасочвае гэтыя дзве лініі (праца, сям'я), па якіх, калі ўжыць сучасную тэрміналогію, ідзе накапленне адмоўных эмоцый у душы галоўнага героя.

Сям'я для Драгуна не стала надзейным тылам, дзе можна супакоіцца, сабрацца з сілай, калі нешта не заладзіцца на працы, у чым, зазначым, ёсць доля і Драгуновай віны. Свой час, думкі, спадзяванні ён аддаваў творчасці і рабоце, жонка, дзеці пры гэтым прыносіліся ў ахвяру.

Пісьменнік, хоць і апісвае досыць падрабязна перыпетыі сямейнага жыцця героя, асноўную ўвагу скіроўвае на яго працоўную дзейнасць. Драгун пасля заканчэння ВНУ ўладкаваўся ў выдавецтве. Шмат старонак у рамане адведзена разважанням героя, якім павінен быць рэдактар і якой — літаратура. Для Драгуна гэта балючая тэма: нялёгка ідуць і ўласныя творы, і чужыя, з якімі даводзіцца працаваць. Ён чакае ад літаратуры праўдзівага, смелага адлюстравання жыццёвых канфліктаў. Атмасфера ж у грамадстве, паказвае пісьменнік, станавілася ўсё больш задушлівай. Усё цяжэй было слову праўды прабіцца да чытача. І калі на пачатку працы ў новым калектыве Драгун адпачываў душой, то праз колькі гадоў ён адчуў сябе ўжо як на катарзе, стаміўшыся ад бясконцых сутычак і накачак.

Аўтар рамана «Камень з гары» раскрывае, як хавалася ад чытача праўда і літаратура станавілася беспраблемнай, безаблічнай, без'языкай, колькі было выпрацавана сродкаў і мер уздзеяння на творцу...

Кастусь Драгун мала адпавядае звыклым уяўленням пра савецкага інтэлігента. Прынамсі, яго беднасць, бытавая неўладкаванасць літаратурай у такой ступені не агаляліся. «Мне душа балела глядзець. Чужыя дзеці ў касцюмчыках, у дарагіх, у новых, у шарсцяных сукеначках, у футрачках, а нашы — як сіроты якія», —выгаворвае Драгуну жонка. На гэта ён адказвае, што жыве і апранае дзяцей па зарплаце. Што ж тады за грамадства і за парадкі ў ім, узнікае пытанне, калі здольны, здаровы мужчына не можа сумленнай працай забяспечыць сабе і сям'і больш-менш прыстойны ўзровень існавання?

У адрозненне ад жонкі на ўласную беднасць Драгун, здаецца, мала зважае і не пакутуе ад яе. Тут якраз выяўляецца традыцыйна-тыповая рыса савецкага інтэлігента. «Вопратка для мяне — глупства. Важна тое, што ў галаве. Там — самы большы скарб, а не тое, што на ашчаднай кніжцы»,— разважае герой рамана.

І ўсё ж так званы быт накладвае свой адбітак на жыццё Драгуна. Ён сам урэшце заўважае, як «патрохі здаюць нервы, збіраецца стома і злосць. Злосці шмат, яна ўсё расце...»

У. Дамашэвіч належыць да пісьменнікаў, якія з вялікай павагай ставяцца да жыццёвага факта. Вядома, кожны творца пэўным чынам адштурхоўваецца ад убачанага, пачутага, асабіста перажытага. Аднак у даным выпадку прывязанасць да рэчаіснасці носіць асаблівы характар. Яна не толькі падказвае «тэму», падкідвае праблемы. Яна амаль што жыўцом пераносіцца ў літаратуру (пад рэчаіснасцю тут разумеецца тое, з чым сутыкнуўся аўтар у жыцці).

Безумоўна, у розных творах У. Дамашэвіча доля «жыццёвых запазычанняў» розная: меншая ў тых, дзе аўтар звяртаецца да падзей мінулага, і большая, калі ён паказвае свой час. Так, равеснікі пісьменніка нярэдка пазнавалі сябе і сваіх знаёмых у героях яго «студэнцкіх» апавяданняў і аповесцей. Прычым пазнавалі не ў сувязі з дакладна выяўленымі светаадчуваннем, настроем, памкненнямі, паводзінамі, што было б натуральна, а па нейкіх канкрэтных дэталях, рысах, сітуацыях. Аднак чытачом «недасведчаным»

хто вузка бачыць, хто не ўсё разумее, хто верыць у банальную праўду сцёртых слоў». Пісьменніка Драгуна хвалююць праблемы, якія раней замоўчваліся. У сваёй аповесці ён закранае «пытанні нацыянальнай самабытнасці, роднай мовы і культуры». Увогуле, па сваіх грамадзянскіх, прафесійных якасцях Драгун адпавядае таму архетыпу сапраўднага мастака, што здаўна склаўся ў гісторыі сусветнай літаратуры і мае добрую, багатую генеалогію. Такім чынам, Уладзімір Дамашэвіч звярнуўся да анталагічнай тэмы — пісьменнік і час, якая вырашаецца ім надзвычай нечакана.

Быццам імкнучыся ў палеміцы з літаратурнымі стэрэатыпамі пазбегнуць выключнасці свайго героя, аўтар зніжае вобраз, кідаючы Драгуна ў вір побыту, бясконцых сямейных сварак, у любоўны блуд. Вобраз пачынае двоіцца. Тут я дазволю сабе не згадзіцца з крытыкам Алесем Марціновічам, які, у рэшце рэшт, прыходзіць да заключэння: «Раздваенне асобы не адбываецца, хоць, прызнацца, часам такая пагроза і ўзнікала...» Дваістасць вобраза Драгуна раскрываецца перш-наперш у адносінах героя да жанчын. Традыцыйна ў класічнай літаратуры сутнасць героя правяралася каханнем, якое выяўляла яго высакароднасць, добразычлівасць, чалавечую годнасць. Р. Бярозкін пісаў: «Існуе не заўсёды бачная і яркая, але бясспрэчная сувязь паміж перадавымі грамадзянскімі імкненнямі чалавека і яго ўменнем адчуваць жывое жыццё вакол сябе, паміж ідэямі чалавека і яго «этычнымі» лозунгамі».

Пісьменнік Драгун глядзіць на жанчын вачыма звычайнага абывацеля. Як самае характэрнае адзначае ў жаночай асобе — сварлівасць, маральную разбэшчанасць, практыцызм. Цяжка суаднесці такую аднабаковую, абразлівую ацэнку з грамадзянскай чуласцю Драгуна, з неад'емнай рысай мастака бачыць жыццё шматгранна, даходзіць да першапрычыны, знаходзіць матывацыю паводзін чалавека.

Шкада, што адзін з самых паэтычных і псіхалагічна складаных матываў у літаратуры — узаемаадносіны пісьменніка і жанчыны — вырашаецца толькі ў сферы побыту.

Побыт займае значнае месца ў рамане. Пасля доўгай лакіроўкі яго ў прозе, ён, як стыхія, паўнапраўна ўварваўся ў твор, устанавіў свой дыктат, аўтарытарна падпарадкаваў сабе герояў, стаў не падуладны ніякім эстэтычным мэтам. Пабытавыя замалёўкі ў рамане зроблены амаль з натуры. Дробязі сварак у камунальнай кватэры амаль стэнаграфічныя. У гэтай сувязі згадаю думку літаратуразнаўцы П. Дзюбайлы: «Поспех звычайна там, дзе ёсць мастацкая звышзадача — праз штодзённы побыт прыйсці да асэнсавання чалавечага быцця».

Раман У. Дамашэвіча «Камень з гары» шматпланавы, шматслойны. Адзінства, цэльнасць фабуле надае добра прадуманая кампазіцыя, якая раскрывае ў аўтары майстра эстэтычнай формы. Адметная рыса творчасці У. Дамашэвіча — змястоўнасць формы, якая сінтэзуе аўтарскую думку, робіць творы пісьменніка, такія, напрыклад, як апавяданні «Конь незацугляны», «Гульня» («Маладосць», 1991, № 2), цікавымі не толькі ў ідэйна-маральным, філасофскім плане, але і зайздросна прыгожымі па эстэтычнай апрацоўцы.

Усе падзеі ў рамане звязаны з лёсам галоўнага героя. Яго жыццёвы шлях нагадвае след каменя, што коціцца з крутой гары, уцягваючы ў свой імклівы рух усё навокал.

«Ці як той камень з гары: ты яго толькі скрані, зруш з месца, а там ён рынецца ўніз, цягнучы за сабою цэлы абвал. Ты яго толькі скрані...»

У суцэльнай абвальнай плыні ўжо цяжка зразумець, што стала першапрычынай руху, што надае хуткасць лавіне падзей.

Уладзімір Дамашэвіч узняўся да ўзроўню мастацкіх абагульненняў. Ён паказаў лёс пісьменніка ў час гістарычных змен, раскрыў трагічную залежнасць пісьменніка ад абставін, якія не дазваляюць надрукаваць ужо напісаную кнігу, штурхаюць на фантастычныя ўчынкі, даюць магчымасць выстаяць у барацьбе з часам толькі моцным духам.

**Наталля КАПШАЙ.**

г. Гомель.

---

творы наўрад ці ўспрымаліся як адбітак жывога жыцця.

Раман «Камень з гары» па колькасці прататыпаў, калі магчымы такі тэрмін у дачыненні да герояў твора, бадай, не мае аналагаў у нашай прозе. Ці не за кожным з іх стаіць канкрэтная асоба, якая досыць лёгка «прачытваецца». Аўтар, змяніўшы прозвішча (часам адну ці некалькі літар у ім), пакінуў выразныя партрэтныя характарыстыкі людзей, узнавіў рэальныя сітуацыі з іхняга жыцця.

У рамане паўстаюць постаці многіх беларускіх пісьменнікаў — В. Быкава, А. Карпюка, У. Караткевіча, І. Пташнікава, Б. Сачанкі... Памінаюцца і нават цытуюцца самі творы. Праўда, назвы крыху зменены: «Жураўліны крык» стаў «Жураўліным клінам», «Пушчанская адысея» — «Партызанскай адысеяй» (аповесці В. Быкава і А. Карпюка) і г. д. Побач з гэтымі аўтарамі, роля якіх у тагачасным літаратурным працэсе цалкам станоўчая, «вымалёўваецца» іншыя, каго ніяк не залічыш у літаратурны авангард. Аналагічная сітуацыя ў рамане з работнікамі выдавецтва, за якімі таксама бачацца рэальныя людзі...

Падзеі і факты, пра якія расказвае У. Дамашэвіч, неабходна ведаць. Прынамсі, нялішнімі яны будуць для сённяшніх маладых літаратараў. Можа, тады яны з большай увагай здолеюць паставіцца да твораў папярэдняга, «застойнага» перыяду, не стануць з такой лёгкасцю кідаць папрокі старэйшаму пакаленню ў прыстасавальніцтве, адсутнасці грамадзянскай мужнасці. Аднак, думаецца, форма ўзнаўлення гэтых падзей і фактаў павінна быць іншая: публіцыстычны нарыс, успаміны. Проза вымагае ўсё ж большай мастацкай трансфармаванасці жыццёвага матэрыялу: тыпізацыі, абагульнення, асэнсавання.

«Звышпрывязанасць» да рэальных падзей і асоб, пэўна, была таксама прычынай, чаму твор не друкаваўся. Па нашым часе, калі выкрывальніцкія тэндэнцыі дамінуюць у грамадскай свядомасці, нараджаючы не лепшыя ўзоры стаўлення да чалавечай асобы, раман У. Дамашэвіча асаблівых эмоцый, здаецца, не выклікаў. Ды і два прайшоўшыя дзесяцігоддзі нешта значаць. З тых, хто мог бы лічыць сябе пакрыўджаным і абражаным аўтарам «Каменя з гары», «иных уж нет, а те — далече», як сказаў калісьці паэт. Іншая сітуацыя, яе можна прадбачыць з усёй пэўнасцю, назіралася б пры з'яўленні твора ў 70-я гады ці крыху пазней.

Але, магчыма, у будучым, калі гады настолькі адсунуць узноўленыя пісьменнікам падзеі ў нашай памяці, што яны страцяць сваю прамую і адназначную сувязь з жыццёвымі рэаліямі, твор стане ўспрымацца як мастацкае сведчанне часу? Здаецца, такой перспектывы ў рамана «Камень з гары» няма. Бо справа нават не ў тым, што за Базылевічам, як ні чытай, паўстае менавіта і толькі аўтар «Жураўлінага крыку», «Трэцяй ракеты», «Знаку бяды»..., а за Рымарам — сумнавядомы з 30-х гадоў крытык-аглабельшчык, які добра пасадзейнічаў, каб многія беларускія пісьменнікі апынуліся далёка «ад родных ніў, ад роднай хаты». Справа ў тым, што характар цэнтральнага героя (на ім трымаецца ўвесь ідэйны, сэнсавы, эмацыянальны зарад твора, бо раман «Камень з гары» з'яўляецца монараманам, раманам аднаго героя) не атрымаўся дастаткова маштабным і значным. Адсюль — замкнутасць жыццёвай прасторы, быццам назіраеш за жыццём з вакна, што адчуваецца ў творы. Малакантактнасць са знешнім светам і нейкая ўнутраная, духоўная нявызначанасць (няразвітасць у сэнсе самавыяўлення) робяць Кастуся Драгуна нецікавым. Калі ж да гэтага дадаць неўсвядомленую, а таму не аплачаную пакутамі сумлення чэрствасць у дачыненні да сям'і, то Драгун далёка не заўсёды здольны выклікаць сімпатыю.

Часам паводзінам героя не хапае звычайнай эмацыянальнай напоўненасці, а ўчынкі яго псіхалагічна не падрыхтаваны і не вытлумачаны. Асабліва яскрава гэта выявілася ў фінальных сцэнах рамана, калі Драгун забівае Рымара.

Тут няма асабістай помсты і крыўды. Рымар ніякага дачынення не мае ні да Драгуновых непрыемнасцей у выдавецтве, ні да яго звальнення, ні тым больш да разрыву з сям'ёй. Атрымліваецца, штурхнулі героя рамана на забойства перакананні ідэйнага плана, і да гэтага ён ішоў не адзін год. Аднак, каб учынак Драгуна ўспрымаўся без супраціўлення (размова не пра маральную ацэнку, яна не можа быць станоўчай), як вынік працы ці барацьбы, што адбывалася нейкі час у душы і свядомасці, патрэбны больш важкія мастакоўскія «доказы», чым яны ёсць у творы. «Кожны раз, калі Драгуну даводзілася бачыць Рымара, ён адчуваў у сябе на спіне пад левай лапаткай нязвыклы халадок. Гэты чалавек выклікаў у ім агіду. Яго ажно, здаецца, калаціла, калі ён пазіраў на яго тлустую кароткую фігуру, якую бы заціснулі знізу і зверху, ад чаго яна пачала раздавацца ўшыркі. Вялікія вырачаныя халодныя вочы, тонкія вусны з характэрнай канфігурацыяй гаварылі аб жорсткасці натуры, хоць на твары яго была заўсёды саладжавая ўсмешка, а на языку — гатовы для кожнага, у залежнасці ад рангу, камплімент»,— так «збіралася» нянавісць да Рымара. Быў яшчэ першаштуршок: словы простай вясковай жанчыны, маці калегі па працы: «І няўжо не знойдзецца смелага чалавека, каб яго забіў, як шалёнага сабаку?»

Не хацелася б спрачацца з героем (і з аўтарам) наконт разумення народнага прынцыпу, што чалавечая кроў ніколі не праходзіць дарам. Адзначу толькі, што з яго не вынікае помста, забойства як канкрэтнае дзеянне, таму яму, прынцыпу, не патрэбны абаронцы. Тым больш, калі яны бяруць на сябе абавязкі і пракурора, і выканаўцы прысуду. Па народных уяўленнях, злыдня караюць не людзі, карае лёс, вышэйшы суддзя, які пастаўлены сачыць за справядлівасцю ў чалавечым свеце.

Драгун не можа змірыцца з беспакаранасцю зла. Аднак суд над Рымарам, што вяршыцца ў рамане, не вынікае ні з логікі ўзноўленых падзей, ні з логікі паводзін героя, ні з асаблівасцей яго натуры.

Падзеі па волі аўтара набылі ўрэшце лавінападобны характар, пацягнуўшы галоўнага героя ў бездань. Толькі камень з гары, калі мець на ўвазе скразны вобраз-сімвал у рамане, здаецца скінутым знарок.

**Таіса ГРАМАДЧАНКА.**

---

**ВІНШУЕМ!**



# НЯХАЙ СОНЦА НЕ ЗАХОДЗІЦЬ...

## Да 70-годдзя Івана МУРАВЕЙКІ

Нярэдка бывае так, што чалавек, з якім ты выпадкова ці па нейкай прычыне пазнаёміўся, уваходзіць у тваю душу назаўсёды. І гады, і кіламетры адлегласці, якія могуць раздзяляць абодвух, становяцца не перашкодай, а цягай хутчэй сустрэцца, падзяліцца сваім, запаветным, ці хоць бы некалькі хвілін пагутарыць па тэлефоне, распытаць пра здароўе, навіны. І не мае тут ніякага значэння ўзрост ці, скажам, нейкі сацыяльна-грамадскі статус знаёмцаў.

Гэткае сяброўства ў мяне даўно з Алесем Махначом, суседам па кватэры. А яшчэ з Іванам Муравейкам, жыхаром іншага горада — Любані. Абодва ветэраны вайны. Да нашага асабістага знаёмства я ведаў Івана Андрэевіча толькі па ягоных кнігах для дзяцей, якіх ён выпусціў нямала за свой некароткі творчы век. Я чытаў іх сваёй дачцэ, якая хадзіла ў садок, радаваўся разам з ёю ёмкім, дасціпным, іскрыстым вершам са зборнікаў «Сем колераў вясёлкі», «Дружная сямейка», «Сняжынкі-смяшынкі», «Дуб і дубок», «Я прыдумаў казку», «Няхай сонца не заходзіць»...

Кажуць, што у сонейка
І ў цяплынь, і ў холад
Шмат праменняў тоненькіх,
Нітачкаў шаўковых.
Я схаплю прамень за хвосцік,
Прывяжу за колік —
Няхай сонца не заходзіць
Аніколі!

Чытаў і не падазраваў, што гэтыя творы, такога жыццярадаснага зместу, напісаў чалавек, які на сваім шляху спазнаў шмат нягод і перш за ўсё — цяжкія пакуты вайны.

Тэма вайны ў творчасці Івана Андрэевіча якраз і зблізіла нас. Усё жыццё ён пісаў вершы для дзяцей — і аднойчы на мой рэдактарскі стол у выдавецтве «Юнацтва» лёг незвычайны рукапіс пад назвай «Прынёс з вайны». Тут я зраблю агаворку. Не так проста рукапіс трапіў у выдавецтва. І з-за чаго б вы думалі? З-за... сціпласці аўтара, які ўжо меў у сваім багажы паўтара дзесятка дзіцячых кніг, што выйшлі ў Мінску і Маскве. Благаславіў рукапіс у свет, напісаў прадмову Уладзімір Паўлаў. Так і выйшла «споведзь байца пра «сваю» вайну», як вызначыў І. Муравейка сваю новую кнігу. Вось як піша ў прадмове Уладзімір Паўлаў: «Цікавую кнігу прынёс з вайны вядомы дзіцячы пісьменнік Іван Муравейка. Яна доўга ляжала ў яго ў стале, можа, нават вельмі доўга (ажно 45 гадоў. — **Я. Х.**). З-за гэтага, аднак, першародства матэрыялу не паблякла, бо эмацыянальнае ўздзеянне сабранага ў ёй вялікае... Кніга гэта —дакумент салдата-акопніка, камандзіра мінамётнага ўзвода, камсорга палка, карэспандэнта дывізіёнкі і армейскага паэта. Праз усе названыя «пасады» прайшоў на вайне Іван Муравейка. А вось вехі яго франтавога шляху: Смаленск — Салаўёўская пераправа — Падмаскоўе — шпіталь на Алтаі — Сталінград — Днепр — Днестр — Магнушаўскі плацдарм на Вісле — Одэр — Берлін. Праз успрыманне аўтара даведваемся пра горкі пачатак вайны, гераізм і баязлівасць, трагедыю і высакародства людзей».

Сама кніга багата жанрава. У ёй можна знайсці дзённікавыя запісы, замалёўкі, былі, дыялогі, гумарэскі, вершы, напісаныя па-беларуску і па-руску.

Вышыня безыменная.
Пустка пясчаная.
Ні жыта, ні травы на ёй не раслі.
Чаму ж яна танкамі ўся ўзараная?
Чаму ж мы крывёю яе палілі?
Чаму дзесяць раз мы ў атаку хадзілі
І адбілі не меней атак?
Таму, што яна — часцінка Радзімы...

Гэты верш напісаны ў 1944 годзе. Ад Івана Андрэевіча я даведаўся, што ў ветэранаў вайны «часцінка Радзімы» ўспрымаецца ва ўсім далейшым жыцці асабліва абвострана. Бо для іх вайна не закончылася ў сорак пятым... «На вайне быў кожны землякопам. Так, і я капаў да мазалёў — бліндажы, траншэі і акопы, і... магілы для сваіх сяброў». І частка гэтая, «часцінка Радзімы», была месцам пахавання лепшых франтавых пабрацімаў.

Кніга «Прынёс з вайны» своеасаблівая і тым, што тут ёсць месца і дасціпнаму франтавому гумару. Раздзелы «Апавяданні Пятра Перапечкі» (чытайце І. Муравейкі. — **Я. Х.**) і «Салдацкі гумар, пачуты ў час перапынкаў паміж баямі» — гэта гарачыя «цёркінскія» расказы і жарты бывалых воінаў. Як прыклад: «— Якія сілы рускіх вас разбілі? — Не магу ведаць, гер палкоўнік, — я не азіраўся...»

Усё жыццё Іван Андрэевіч пражыў у невялікім палескім гарадку Любань. І працаваў таксама ў адным месцы — у Любанскай раённай газеце. Быў яе рэдактарам, адказным сакратаром. У гэтым я бачу пастаянства ягонага характару — не мітусіцца, не шукаць нечага выгаднага, быць верным аднойчы выбраным мясціне, справе. А тонкасць, далікатнасць яго натуры, без якіх немагчыма ўявіць дзіцячага пісьменніка, даказваюць, што, пражыўшы ўсё жыццё на адным месцы, аддаўшы ўсе свае гады працы аднаму калектыву, — інакшым чалавекам быць не мог. Разумець людзей — ці не галоўная рыса характару Івана Андрэевіча. Апошнім часам яму самому вельмі цяжка: не стала любімага, роднага чалавека — жонкі Таццяны Мацвееўны, былой партызанскай медсястры, з якой пражыў больш як сорак гадоў...

Я ведаю, што Іван Андрэевіч — заядлы рыбак. Устае на досвітку і — да вады. Часам вяртаецца дадому позна вечарам. Вуда супакойвае, развейвае тугу. Там, на рыбалцы, нараджаюцца і новыя вершы.

Напярэдадні высокага юбілею жадаю вам, паважаны Іван Андрэевіч, новых творчых поспехаў, моцнага здароўя, тае сілы волі і вытрымкі, пра што пісалі некалі самі:

Усё сцярплю, любыя мукі,
Любую вынесу бяду,
Але ў роспач не ўпаду,
Не падыму — каб здацца — рукі.

**Яўген ХВАЛЕЙ.**

Узважыўшы былых эпох грахі,
Аддам планету рыбам, птушкам, дрэвам.

Павернуць свет
да радасці яны
Яшчэ нязнанай будучыні сілай.
Мой родны край,
Мой росны шар зямны,
На станеш, веру, ядзернай магілай!

Мне ў пошугу вячэрняе зары
Глядзець, куды кіруецца пуціна
Па самым пракаветным пустыры,
Дзе за спіной
І прад вачмі —
Айчына....

## Дзьмухавец

Жарка, жоўта уквечаны лёг паплавец
У пакінутай вёскі маёй на віду.
Як праменьчык вясны, заірдзеў
дзьмухавец —
На сцяблiне калыша, расстайнік, бяду.

Завяршаецца лёсу гарэністы круг:
Гул шчаслівай пары і нямота жытла.
Дзьмухавец, мой адзіны прыветлівы
друг,
Колькі дорыш вачам трапяткога святла!

Я світаю душой у далёкай пары,
Што асмужыў, панёс назаўжды
час-плывец.
Чую голас матулін жывы на двары,
Бачу сябра жывога ля груш, дзьмухавец.

І няма там, у вёснах, жахотнай слаты,
І праменяць шчасліва, жаўцяна яны.
Не пагас, не адцвіў, дзьмухавец,
яшчэ ты,
Не пасеяў між траў белы пух сівізны.

## Дзяды

На могілках, дзе жухлая трава,
З журбінай мёртвых сёння памянём.
Сыпучая магільная жарства
Сагрэта чуйнай памяці агнём.

Крывава ўзбухлі гронкі арабін,
І ветру лёт, як пошуг вечных душ.
Ляжаць дзяды, паспеўшы адрабіць,
Пусціўшы з рук
Жыцця трывучы гуж.

Іх доўгі сон журбою зварухну,
У век пагроз рукой асцерагу
Над кожным пракаветнай сасну,
Зару і птушку, слоту і пургу...

У пустаце пагаслых іхніх дзён
Тут забыцця быльнёг не парасце.
Мне свет зямны на шмат шырэй відзён
У продкаў чалавечнай праваце.

●

Сягоння,
як дасюль ніколі,
Душа дыхнула спорнай воляй,
Узнёсшы тое з забыцця,
Што адспявала грознай славай
І легла ў спадчыну крывава
Паіць карэнні пачуцця.

Ніколі,
а сягоння толькі,
Адкрыўшы свету сонца колькі,
Паўстала праўда з глыбіні.
І азавецца гнеўным гулам
Усё, што ў памяці паснула,
Што поіць волі карані.

Сягоння,
як яшчэ ніколі,
У адказе мы за росхрыст волі,
За дзею кожную сваю.
І праватою абнаўлення
Азорыць памяці пламенне
Тваёй наступнасці брую.

Сягоння,
як ніколі болей,
Пагрозна трубіце над воляй,
Сляпцы, злічыўшы барышы.
Вас крута вынесла пуціна
Адтуль, дзе Сталін і руціна,
Дзе згуба песні і душы!

Сягоння,
ведаю, сягоння
У народа чуйнае бяссонне,
Ды не бяспраўе, як было.
Сышло бяспомнасці сутонне.
Надзеі бліскае святло!

---

крытыя ад свету белага бліскучымі, як вітрыны, шчытамі.

Гвардыя ў рэзерве была.

Крыху воддаль ад гэтай мотакалоны засаднай чарнела «Волга» местачкомаўская. У ёй сядзеў бацька нашага мястэчка стольнага — першы гаспадар местачкома, чалавек прынцыпаў і перакананняў нязменных. У сваім паліце габардзінавым пасля года 85-га ён зашыў зачытаны ўшчэнт «Курс ВКП(б) кароткі».

Праз хвіліну кожную ў местачкомаўцы чорнай тэлефон званіў. Першы гаспадар местачкома ўважліва слухаў — дакладвалі то з аднаго, то з другога суда народнага. Скрозь па мястэчку нашаму суды народныя ўжо гатовыя былі прыняць да працэсу справядлівага падбухторшчыкаў ярых, г. зн.—галоўных Левых. Чакалі ўжо сведкі, свае крэслы мяккія пазаймалі суддзі,—і ўжо на сталы панавальвалі стосы пратаколаў запоўненых. Толькі падпісаць іх засталося. А ў касы ашчадныя быў загадзік пушчаны маланкава: галоўных Левых, дый астатніх, негалоўных, аштрафаваных па суду на дзвесце рублёў савецкіх, абслугоўваць без чаргі,—як ветэранаў вайны апошняе.

Пазваніў у местачкомаўку чорную і пракурор мястэчка галоўны. Далажыў трывожна: ноччу з будынка пракуратуры зніклі ключы ад кабінетаў і падвалаў усіх, і нават ад уваxода цэнтральнага. Пра гэтае шкодніцтва нечуванае ўжо дадзена інфармацыя ў газеты і на тэлебачанне. Шкоднік жа— вядомы. Гэта начны вартаўнік пракуратураўскі. Ёсць падазрэнне: начны вартаўнік пракуратуры нашае звязаны з Левымі. Зараз яго ловяць і, вядома ж, зловяць і ключы адбяруць, і— само сабой—пакараюць. Ды ўцеха з таго пакуль што малая,—бо ўсе ж працаўнікі пракуратуры нашае местачковае, гэтыя рыцары мастацтва юрыдычнага, таўкуцца зараз на вуліцы, не маючы аніякай магчымасці заняць свае вышыні крыленкаўскія. Ужо з гадзіну як яны не абараняюць правы законныя нашых местачкоўцаў сумленных, бо на вуліцы немагчыма ж прымаць заявы, ці пратэсты там якія. І нават ён, пракурор галоўны, таксама на вуліцы таўчэцца і дакладвае ў местачкомаўку чорную не па клавішным сваім арганчыку, а па траскуну вулічным, ледзьве ўвапхнуўшы ў яго дзве капейчыны медныя.

Першы гаспадар местачкома з надзеяй чакаў гэтае данясенне трывожнае. І вось—дачакаўся. А тут яшчэ пазваніў збеглы вартаўнік начны, пацвердзіў святасць слоў пракуроравых. Значыць, усё ўлічана, самы час надаваць аперацыі размах стратэгічны...

І на Левых былі пушчаны сілы гвардзейскія, і Левыя разам з тымі, хто пасярэдзіне, мусілі былі адысці ад могілак мітынговых, адступіць за межы нашага мястэчка сталічнага.

Там, за мястэчкам, у чыстым полі паэтычным, што паволі ў пагорак пераходзіла, і адбыўся мітынг забаронены.

Лідэр Левых, падобны на высокую свечку запаленую, гаварыў проста і выразна і гаварыў якраз пра тое, пра што ўсе пачуць хацелі. Яго слухалі, як у касцёле,—седзячы. Лідэр Левых, як варажбіт, умеў пераконваць голасам. Голас ягоны марна не губляўся, насычаў паветра і, няхай ненадоўга, але тыя, што пасярэдзіне, страчвалі іронію сваю, а сумленныя абывацелі й болей таго—на гэтым пагорку голым адчувалі сябе паўстанцамі. І нават моладзь курсанцкая, якая, лёгка прабегшы па чыстым полі фальклорным і апярэдзіўшы астатніх вайскоўцаў, першая на схіл пагорка ўзышла,—і тая знерухомела, пачуўшы лідэра Левых.

— Курсанты, сядайце! — запрасіў ён.

Моладзь баявітая па-дзіцячы пачырванела і памкнулася было прысесці, але ўсё ж не зрабіла гэтага,—бацькоў-камандзіраў пасаромелася.

Першы гаспадар мястэчка баяўся лідэра Левых. Ён, увогуле, баяўся людзей, якія размаўлялі па-беларуску і ўмелі прамаўляць словы на паперку не напісаныя.

Яму далажылі пра схіл пагорка, на якім мітынгоўцы сышліся і які ўжо часткова курсантамі акружаны. Ён зірнуў на карту і алоўкам чырвоным вакол пагорка варожага намаляваў абаранчак. Намацаў пад габардзінам цёплым «Курс кароткі», паразважаў на карту гледзячы: мясціна крутая, тэхніку гнаць не варта, а па-пяхотнаму трэба вывесці некалькі рот, шчыльней абкласці аб'ект (г. зн. пагорак) і цісануць.

Яму захацелася на свае вочы ўбачыць канец баталіі слаўны.

І ён убачыў.

— Што рабіць з лідэрам Левых?— спыталіся ў яго.

— А што, вы яго ўжо спаймалі?

— Не яшчэ,—адказалі разгублена.

— Ну, дык лавіце і праз суд вышліце яго ў РСФСР. Толькі праз суд!

Левых са схіла пагналі.

Левыя і тут не ўпарціліся. Уцякалі, хто як мог, угінаючы плечы і галовы ад кулакоў ды паленцаў гумовых. Разам з Левымі беглі абывацелі і ўцякаў я. Уцякаў у гурце тых, што заўсёды пасярэдзіне.

Ні кулаком, ні паленцам мяне не зачапілі. Мне, наогул, пашанцавала. Я ўспароўся проста на радыятар местачкомаўкі чорнае, з якое якраз першы гаспадар местачкома вылазіў. Да мяне прыпозненa ахоўнікі кінуліся, але я, ратуючыся, апярэдзіў іх, смела да гаспадара першага падступіў. Я паказаў на Левых, што, уцякаючы, рассыпаліся вакол і цвёрда прамовіў:

— Таварыш генерал, Левыя ні слова не разумеюць па-руску. Вазьміце мяне за перакладчыка, лягчэй у вас работа пойдзе.

Не ведаю, ці добра я зрабіў, абазваўшы першага гаспадара местачкома генералам, але тое, што прапанаваў свае паслугі філалагічныя, займела свой выбрык станоўчы. Мяне прапусцілі праз шчыты празрыстыя і шаломы непрамакальныя,—прапусцілі, не пакамечылі, а назаўтра нават запрасілі ў пакой высокі. Так, так,—сам першы гаспадар местачкома, запомніўшы мяне, зрабіў ласку, да сябе паклікаў.

— Мы ведаем,—сказаў першы гаспадар местачкома,—што вам падабаюцца Левыя, але й з намі, Правымі, вы сварыцца не хочаце. Мы ведаем, што вы заўсёды пасярэдзіне, што б ні было. Гэта вельмі добра. Учора вы прасіліся на работу, але перакладчыкаў з мовы беларускае ў нас шмат. Мы вам работу другую прапануем, вельмі важную для мястэчка нашага. Мы вас папросім арганізаваць Партыю Пасярэдзіне. Так-так, Партыю Пасярэдзіне. Пэ Пэ скарочана. Вам, як лідэру партыі новай, дэкляруем усе— і местачкомаўку чорную з тэлефонам, і пакой высокі ў любым, дзе захочаце, будынку мястэчка. Галоўнае, каб мы ў гэты час трагічны былі разам.

— Дзякую,—прашаптаў я ўзрушана,—я падумаю.

— Добра, — сказаў гаспадар местачкома,—толькі з адказам не спяшайцеся, падумайце хвілін пяць.

У пакой высокі ўвайшоў збеглы начны вартаўнік пракуратураўскі:

— Таварыш першы гаспадар, лідэр Левых злоўлены.

— Судзіце яго,—загадаў першы гаспадар местачкома.

— Ужо засудзілі, — прамовіў збеглы вартаўнік пракуратураўскі.

— Тады высылайце ў РСФСР!

— Ужо выслалі, таварыш першы гаспадар местачкома.

Збеглы вартаўнік начны пракуратураўскі задаволена вyслізнуў з пакоя высокага.

— Забыўся папярэдзіць вас, — ласкава звярнуўся да мяне першы гаспадар местачкома,—на людзях вы і ўся партыя ваша будзеце дзейнічаць незалежна ад нас, Правых. На сваіх мітынгах і ў сваіх газетах будзеце безаглядна спрачацца з намі, крытыкаваць нас, нават лаяць. Але ў нейкі момант, каб ворагі нашыя не здагадаліся, што мы саюзнікі, і каб зусім іх заблытаць, нам давядзецца вас арыштаваць, як лідэра легальна варожай нам партыі. Давядзецца судзіць вас і выслаць...

— У РСФСР?! — напалохаўся я.

— Ды што вы!—усклікнуў першы гаспадар местачкома. — Сваіх мы ў РСФСР не высылаем. У адваротным кірунку паедзеце. Ну, скажам, у бок якога-небудзь каралеўства соннага. Бельгійскага, напрыклад, або Шведскага.

7 ліпеня 1989—14 красавіка 1991.

---

**УПЕРШЫНЮ Ў «ЛіМе»**



Эдуард Дубянецкі нарадзіўся ў 1966 годзе. Скончыў гістарычны факультэт Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна. Зараз працуе там жа навуковым супрацоўнікам. Мае шэраг публікацый (навуковых) у розных перыядычных выданнях Беларусі.

Сёння штотыднёвік змяшчае яго першыя вершы.

Эдуард ДУБЯНЕЦКІ

## Летаргія

Мы ўсе знаходзімся у страшным,
доўгім сне,
Які нас шмат гадоў не пакідае.
Не радуемся мы ні сонцу, ні вясне,
Не бачым сваіх дзей, і не кранае
Нічога нас, бо плечы нам згінае
Вялікі Жах, ён знішчыў душу, волю,
Зрабіўшы нас дзівоснаю істотай,
Нячуткай да пакут, чужога болю,
Няздольнай зразумець дабро дзе, зло,
І ўрэшце нейкай брыдкай, бестурботнай,
Якую не абудзяць цуд, святло...

Дык здарылася што, о людзі, з намі!!
Чаму мы ўсе як нелюдзі, як не-
Дачалавекі, і з адкрытымі вачамі
Спім ў непрабудным, летаргічным сне!

## Зорка лёсу

Яскрава зорка ў небе ззяе,
Сваё святло на горад лье,
Мяне заўсёды сустракае
Яна ўначы, калі я не
Магу заснуць, і ў позні час
Выходжу з хаты адзінокі,
Тады ніхто не бачыць нас,
І я, ад спраў зямных далёкі,
Іду паціху, як заўжды
У неба узнімаю вочы,
Пытаю: «Зорачка, скажы
Як жыць, куды мне далей крочыць!»
І чую ціхі твой адказ:
«Кахай, сумуй і весяліся,
Таму што усяму свой час
Павінен быць, дык не спазніся!»

●

Часіны вельмі цяжкія насталі:
Краіна ўжо амаль загразла ў брудзе,
Не здзейнілася тое, што чакалі
Усе людзі. Думкі іх аб цудзе
Дарэмныя. І гледзячы у далі,
Спытаю я: «Што заўтра з намі будзе!»
І мне адкажа нехта сумна, ціха:
«Напэўна, не пазбегнеце Вы ліха»...

●

Я — ўсяго толькі кропка, не болей,
На бязмежнай, блакітнай Зямлі.
Я змірыўся даўно з гэтай доляй,
Думкі, нібы ты цар, адышлі.

І стаю я, адзіны, у полі,
А вакол цішыня і спакой.
Я шчаслівы цяпер, як ніколі:
Я — часцінка планеты сваёй!

●

Няма ў маёй душы спакою,
Ёсць толькі боль і хваляванне
І страшнай бойкі прадчуванне...
Няма ў маёй душы спакою,
Бо мы жывем як за сцяною,
Дзе нас абходзіць спачуванне.
Няма ў маёй душы спакою,
Ёсць толькі боль і хваляванне.

●

Сумны, маўклівы натоўп марудна
па вуліцы льецца.
Я ў ім стаю, адзінокі, ніхто
і не бачыць мяне.
Буду чакаць я заўсёды:
спыніцца, можа, хто-небудзь,
Раптам руку мне працягне,
стане мо сябрам маім.

●

Міласэрнасці, сэрца, нідзе не шукай,
Усё цяпло лепш бацькам і сябрам
ты аддай.
Атрымаеш наўрад ці што-небудзь
ўзамен,
Можа, толькі трывогі, пакуты, адчай...

метадычнай работы? Не, нічога не зроблена. З'явілася вось кніга «Музычны тэатр Беларусі. Дакастрычніцкі перыяд»: гэта ж рэвалюцыйная падзея! Але... навошта гэтую кнігу друкавалі? Калі для таго, каб яна сталася паваротным пунктам у асэнсаванні нашай культуры, дык чаму такі тыраж — 630 экземпляраў? Чаму Міністэрства культуры не робіць заяўкі на перавыданне гэтай кнігі, каб па ёй вучыліся ў мастацкіх ВНУ Беларусі, у музычных вучылішчах і г. д. Што, няма чаго ў ёй вывучаць?.. Ці, напрыклад, такі факт. Да мяне звярнулася адна мінчанка: у яе дваюраднага брата ў Польшчы ёсць архіў нейкага кампазітара, які паходзіць з Гародні. Быццам бы ён быў сынам губернатара Гародні, атрымаў музычную адукацыю ў Пецярбурзе, у кансерваторыі, а пасля рэвалюцыі жыў у Польшчы. Але ж шмат пісаў на беларускія тэксты (рамансы), на аснове беларускіх мелодый пісаў фартэпіянныя п'есы. І вось паўтара ўжо года я не магу паехаць па гэтыя ноты ў Польшчу: звяртаўся ў міністэрства, але, апроч абяцанкаў, — пакуль нічога. Ну, а наконт абяцанкі ёсць беларуская прымаўка.

Старадаўняя музыка і яе адраджэнне аказаліся нікому непатрэбнымі. Але абставіны паспрыялі. Яшчэ ўвесну я падзяліўся ідэяй — паказаць у некалькіх канцэртах адроджаную старасвецкую музыку Беларусі — з мастацкім кіраўніком БДФ Ю. Гільдзюком. Ён адрэагаваў неяк няпэўна: маўляў, можа быць, а можа і не быць...

**— «Можа быць» — гэта лепш, чым «не можа быць»...**

— Правільна! Гэта была для мяне хоць нейкая зачэпка. Я пачаў прыкідваць праграмы магчымага фестывалю, схему самой капэлы як цэласнага інстытута. Тым часам у рэспубліцы з'явіўся новы творчы саюз — музычных дзеячаў. Ідэя адраджэння капэлы аказалася тут вельмі дарэчы: у рамках фестывалю СМД правядзе свой першы пленум, і гэта будзе сур'ёзны, грунтоўны пачатак дзейнасці новага саюза.

**— Я ўспомніла зараз, як пасля вашага выступлення на ўстаноўчым з'ездзе СМД, дзе вы зноў даводзілі ідэю адраджэння капэлы, на трыбуну выйшаў госць з Украіны. Ён між іншым выказаў захапленне вашай прамовай, але з-за няведання назваў вас музыказнаўцам. Такі ненаўмысны іранічны камплімент нашым дыпламаваным гісторыкам музыкі...**

— У нас на Беларусі праблемамі старажытнай музыкі займаюцца ў асноўным выканаўцы. Выканаўцы працуюць як музыказнаўцы: цікавая з'ява?.. Напрыклад, больш за ўсіх нот на Беларусь вярнула з польскіх архіваў Вольга Дадзіёмава, яна — піяністка. Цудоўную кнігу пра старажытную музыку напісаў Аляксандр Капілаў, ён — скрыпач. У нейкім сэнсе гісторыкам - музыказнаўцам з'яўляецца гітарыст Валерый Жывалеўскі. Вядома, што пісьменнік, літаратуразнаўца Адам Мальдзіс яшчэ і цудоўны даследчык музыкі. Праблемы нашага музычнага мінулага хвалююць Ігара Мацюхова, мастацкага кіраўніка Дзяржаўнага камернага хору, і арганіста Канстанціна Шарава. Ужо не кажу пра ансамбль «Кантабіле», які зрабіў увогуле творчы подзвіг, вярнуўшы жыццё «Полацкаму сшытку». Зараз, калі п'есы са «Сшытка» гучаць па радыё ці ТБ, ужо гэта на вуха кладзецца так: о, вядомая музыка, гэта мы ведаем. А гадоў 10 таму, я памятаю, многія нават музыканты гаварылі: навошта вам гэта трэба, навошта вы гэта граеце?

**— А цяпер, калі рыхтуецца фестываль, такіх непаразуменняў не ўзнікае?**

— Калі высветлілася, што сабранага, досыць разнастайнага, разнажанравага музычнага матэрыялу хопіць на цэлы фестываль, я звярнуўся да канкрэтных выканаўцаў з прапановай паўдзельнічаць у гэтай новай справе. Не адмовіўся ніводны! Музыкантаў у прынцыпе гэтая культура цікавіць, ды толькі дзе ім браць для працы нотны матэрыял? Ёсць і снобы, якія разважаюць так: ну, гэта, канечне, не Бах, не Моцарт... Ну, вядома, не Бах і не Моцарт! Але, па-першае, Бах ды Моцарт — велічыні, якія існавалі ды існуюць у адзіночным ліку. Навошта іх капіраваць ці дубліраваць? А па-другое, невядома яшчэ, з якімі велічынямі мы будзем мець справу, калі пашукаем па свеце ды мо знойдзем у рэшце рэшт тыя оперы, тыя балеты ды сімфоніі! Хто ведае — можа, мы і Моцарта знойдзем! Урэшце, як «закапалі» Баха на сто з лішкам гадоў, потым колькі яго «раскопвалі», пакуль высветлілася, што кампазітар, аказваецца, быў зусім і не благі. Дык жа мы жывём у такой краіне, дзе закопвалі глыбока і надоўга, і не толькі музыку...

Мы павінны стаць нашчадкамі тых набыткаў музычных, што былі на нашай зямлі. Нярэдка гавораць: быць-то яно было, зразумела, але ж гэта не наша, гэта ж польскае, ці рускае, ці літоўскае, ці яшчэ якое. Гэта ж нейкія незразумелыя для мяне, напрыклад, комплексы! «Наша» — «не наша»... Яно ж **тут** было, і ўжо таму гэта — **наша.** З другога боку: а што такое рускі балет? Гэта ж французскі балет. Што такое оперная творчасць немца Гендэля, які жыў у Англіі і ўвайшоў у гісторыю як англійскі кампазітар? Гэта ж італьянскія оперы. Думаю, ні ў французаў, ні ў немцаў, ні ў італьянцаў, ні ў брытанцаў такога комплексу самаедства, дзяльбы набыткаў сваіх старажытных культур не ўзнікае. Таму і нам творчасць тых жа Радзівілаў ці Агінскіх не грэх лічыць здабыткам і польскага, і беларускага народаў адначасова... Мы ж калісьці жылі ў адной дзяржаве! Дык як жа можна ўзяць і парваць?

І наконт тэкстаў польскамоўных: ну, дык што? Як разумець польскія вершы Купалы? Як разумець рускія вершы немца швейцарскага паходжання Рыльке? Ці французскія вершы Пушкіна? Гэта што — французская літаратура? Самае галоўнае ў творчасці, зразумела, гэта мова. Але ж мова — гэта не ўсё, не адзіная прыкмета нацыянальнай прыналежнасці: ёсць яшчэ тэматыка твораў ці праблематыка і шмат чаго яшчэ. Тым больш — у музыцы. Па гэтых прыкметах творчасць што Міхала Казіміра Агінскага, што Міхала Клеафаса — гэта і здабытак беларускага музычнага мастацтва. Творчасць Радзівіла таксама здабытак як польскага, так і беларускага народа. І творчасць Восіпа Казлоўскага. І дарэмна мы, я лічу, адракаемся ад свайго славутага земляка Манюшкі. Ды ці толькі ад яго? Пра гэта можна доўга гаварыць. Але не справа капэлы высвятляць культурна - гістарычныя стасункі з суседзямі. Капэла павінна вывучаць, якая ж музычная культура была ў нашым краі, і ўзнаўляць, і адраджаць яе тагачасны еўрапейскі ўзровень, і развівацца, глядзець далей...

**— Віктар Іванавіч, я ведаю, што ў вас ёсць дакладная праграма развіцця капэлы, план двух наступных фестываляў, меркаванні наконт будынка. Але пра гэта ўжо наступным разам, тым больш, што праблема перспектывы капэлы будзе, відаць, абмяркоўвацца і на пленуме СМД, і на канферэнцыі, якую арганізуе кансультант Саюза тэатральных дзеячаў А. Саламаха. Павінны прыехаць госці з Літвы, Польшчы, Расіі. І, канечне, мае адбыцца гаворка пра самую музыку. Калі ласка, зарыентуйце нашых чытачоў у праграме канцэртаў.**

— Гучаць будзе ў асноўным музыка XVIII стагоддзя, але вось песнапенні, прысвечаныя Ефрасінні Полацкай, датуюцца XII—XVII стагоддзямі. Сярод твораў — вядомы «Полацкі сшытак» і ўжо таксама знаёмыя слухачам «Куранты», аркестравая музыка М. Радзівіла і фрагменты з оперы «Агатка, або Прыезд пана» Я. Голанда на лібрэта М. Радзівіла, паланэзы Агінскага і рамансы В. Казлоўскага, арганныя і лютневыя (у пералажэнні для гітары) п'есы, псальмы С. Полацкага, шэраг кантаў. Многае публіка пачуе ўпершыню, напрыклад, нізку інструментальных п'ес з «Віленскага сшытка». Прэм'ерай можна лічыць і оперу Р. Вардоцкага «Апалон-заканадаўца, або Рэфармаваны Парнас». Два гады таму яна першы і адзіны раз была паказана на сцэне опернага тэатра. Спецыяльна да фестывалю кампазітар Д. Смольскі зрабіў яе новую рэдакцыю, у якой опера і прагучыць на закрыцці, 30 кастрычніка ў філармоніі. Больш дакладную інфармацыю пра ўдзельнікаў канцэртаў і рэпертуар можна знайсці ў рэкламных матэрыялах, буклетах, выдадзеных да фестывалю.

**— Дзякуй, Віктар Іванавіч, за размову. Спадзяюся, што ідэяй адраджэння беларускай капэлы, ідэяй вяртання нашай музычнай штодзённасці колішняга еўрапейскага кшталту захапіліся і чытачы, што іх прывабяць праграмы прыгожай, гарманічнай старасвецкай музыкі ў выкананні ўсіх вас — творчых аднадумцаў, лепшых музыкантаў Беларусі. Няхай вас пачуюць, зразумеюць і падтрымаюць!**

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

**ручаюся) — у Каўнасе. Але ж Андросік са сваімі гадаванцамі не «спісваў» тую сечу ні ў лонданцаў (таму што ён не бачыў іх), ні ў нагосьці іншага. Ён дыхаў «лонданскім» паветрам, сённяшнім (такі ўжо час: мы ім — крыху чарнобыльскага, а яны нам гэтага — па «бартэры»). Калі ж з бязлітасных, размашыстамагутных рытмаў сечы жыццягубнай, на яе кульмінацыйнай ноце, быццам з груку скрыжаваных мечаў, раптам «высякаецца», праз іскры ўдару, постаць Катарыны — Вольгі Куляшовай, статнай, гнуткай, велічнай, агністай, і калі вакол яе закруцяцца ў блазенскай крутаверці гора-жаніхі, калі між ёю і Петручыо, якога грае Косця Акунёў, пачнецца пікіроўка па-англійску, ды па-руску, ды па-беларуску, калі мовы зблытаюцца так, што ў іх ужо, бадай, няма патрэбы, бо галоўнай будзе мова рытму, пластыкі ў яе іспанскім «перакладзе з італьянскай». Калі нас, распалена зачараваных, кінутых у покат нашым рогатам, прымусяць верыць, што актрыса, акрамя як па-іспанску, акрамя як праз сюітную стыхію жывапісу танцам, размаўляць ніколі не вучылася... Вось тут і выяўляецца: забудзьма, што адкуль, бо ўсё, што ёсць на свеце, — наша, трэба толькі ўмець «узяць».**

Мне давялося «прагартаць» у памяці ўсіх блазнаў з п'ес Шэкспіра, каб знайсці таго, чыё «забойства» паказаў Сяргей Шымко. Няма. Шэкспір не забівае блазнаў. Але ў «Ліры» каралеўскі блазен пасля шостай сцэны ў трэцім акце знік з трагедыі — пасля загаду Кента «ўслед за намі назіркам бяжы». Бясследна знік, і пра яго далей — ні слова. Мо пра таямніцу гэтага знікнення падалі нам «знак»? Бо невялічкі блазнаў маналог «Крыху пазабаўляюся прароцтвамі» — узяты з «Ліра», словы кожнага радка гучаць, нібы адказ на допыце: ты так казаў? успомні! а яшчэ? І пасля кожнага ўспаміну ўдар замураванай цемры, змрок сціскаецца з усіх бакоў, б'е зверху ў голаў, рытмы ўдараў рэгулююць каты — безаблічныя, з жалезных мечаносцаў, — іхнія рапіры канчаткова замуроўваюць прастору, чалавека (недаўмерлага, яшчэ жывога!) зачахольваюць — панеслі. Жудасная пантаміма. Дзіўная гульня. Чым далей, тым з большым захапленнем, з новымі адкрыццямі.



«Гуляем у Шэкспіра». А. Паплаўская (Джульета), Я. Жураўкін (Ларэнца), С. Журкоўскі (Парыс).



«Гуляем у Шэкспіра». Сцэна са спектакля.

Фота У. КРУКА.

З прароцтваў Блазна паўстаюць малюнкі іх увасаблення: Альбіён навыварат, у стылі Брэйгеля ці Босха, як апафеоз каварства, здрады, помсты, свету мерцвякоў, якія носяць кожны на сабе сваю труну. Калі ж яны растануць, выйдзе нехта... Не, не «выйдзе». Мо — «матэрыялізуецца»? Прывід з дзвюх постацяў, адна ў другой на карку, буба з бубай. Загаворыць — Рычард трэці. «Горб» скуголіць тыя ж словы, нібы рэха. Ён спаўзае з карка, але застаецца «ценем», паўтараючы за Рычардам сінхронна кожны рух, нібыта вывяраючы, пытаючыся, скардзячыся, наракаючы: яму — баліць, бо ён — душа свайго тырана. Уяўляеце? Па-мойму, геніяльна. Колькі навуковых каментарыяў накоплена вакол макіявеліўскай тэзы Глостэра «кулак — сумленне, а закон нам — меч». І вось яно — мастацкае паталагаанатамадаследаванне: меч — Ю. Паплёўка і сумленне (Цень) — В. Фамін. Цытую каментатараў: «Шэкспіра папракалі ў неправўдападабенстве гэтай сцэны, мяркуючы, што гэткая метамарфоза ў душы Анны абсалютна немагчымая» (У. Шэкспір, т. І. М., 1957, с. 610). Андросікаўскі варыянт даследавання скалануў здагадку: сэрца Анны ўчула енк самой душы забойцы яе мужа, менавіта гэты енк зламаў яе, абрынуўшы на Глостэра (С. Ніціфарава, як падкошаная, валіцца яму на рукі з вышыні магільні), але ці не самае дзівоснае адбудзецца, калі Паплёўка — Глостэр перадасць яе, як лішні (ужо — лішні) скарб, на рукі свайму Ценю — Фаміну, і той, прыняўшы цела Анны беражліва (дачакаўшыся «свайго»!), пачне люляць (душа — душу!) свой дарагі здабытак, з новым, нечуваным енкам... Цела Анны ўжо, здаецца, — труп?.. Ды гэта ж зноў — заяўка на мастацкую канцэпцыю, на «не такое» прачытанне ўсёй сістэмы п'есы. Дачакацца б!.. І да «Гамлета», і да «Рамэа і Джульеты», і да «Утаймавання»...

Ставячы «Шмат шуму ніадкуль», Георгій Таўстаногаў (а Андросік жа — ягоны вучань) выказаў такое меркаванне: «Не прымайце гэта за чарговы парадокс, аднак, па-мойму, сёння нельга граць Шэкспіра, як класіка».

А першы педагог Андросіка, народны артыст БССР Д. А. Арлоў катэгарычна не прымаў падобных «парадоксаў». І абое мелі рацыю? Прынамсі, я абсалютна ўпэўнены, што іх памеркавала б андросікаўская «Дванаццатая ноч», якая ўвенчвае «Гульню ў Шэкспіра». Карнавал. Фантасмагорыя. З Шэкспірам — у абдымкі, быццам з Лёшам Дударавым ды Уладзімірам Някляевым. Але ж — і з Таўстаногавым («Вучыцца граць Шэкспіра трэба на Шэкспіры»). І з Арловым, — сведчу: хто пабачыў некалі ягонага Мальволіо, адчуе ўдзячнасць свайму лёсу, калі ўбачыць пераемніка Арлова ў гэтай ролі — В. Фаміна, з такім вось, «таўстаногаўскім», дадаткам: «Ці не ў Шэкспіры тоіцца шмат з прынцыпаў сучаснае эстэтыкі тэатра». Расшыфроўваць? Паспрабую. Па «сістэме Станіслаўскага» ніколі і ніхто не здагадаўся б, што Мальволіо не вытрымаў напалу ўласнага ўяўлення пра высокі шлюб з Алівіяй — памёр. Такое можна выдумаць — «гуляючы». І да таго ж, гульцам, напэўна, трэба нешта ведаць, акрамя «сістэмы Станіслаўскага», прынамсі, мабыць (прыгадалася), магічна-рытуальную эстэтыку харэаграфіі народаў Афрыкі (хто бачыў пастаноўку Дагамейскага ансамбля «Зомбі» — уваскрэсенне памерлай — зразумее, што адкуль). Мо нехта ссуне бровы ў ментарскай глыбакадумнасці: «Дванаццатая ноч» і — «зомбі»? Адкажу зваротам: кожны, хто як можа і чым можа, паспрабуйце паспрыяць таму, каб мець магчымасць гэта ўбачыць. Грукайце ва ўсе інстанцыі, шукайце Бога, чорта, спонсараў, Андросіка, ягоных гадаванцаў, памажыце вырашыць парадаксальную сучасную праблему: геніяльнасць, што з табой рабіць!

**У якасці пастскрыптума: афіша гэтага тэатра мае ўжо чатыры назвы пастановак, назапашаных пераддыпломнай працай. Гэта — той рэпертуар, з якім нясорамна выходзіць у вялікі свет. «Нясорамна» — не тое слова. Радасна? Святочна? Так было! Дыпломныя спектаклі завяршаліся сапраўднымі трыумфамі (пра гэта сведчаць запісы тэлетрансляцый). Мы віталі творцаў Новага Тэатра, аднадумцаў і паплечнікаў Андросіка — Уладзіміра Лаўрухіна (настаўніка па мове пластыкі), Альбіну Шагідзевіч (пластыка сцэнічнай мовы), Дзіну Іванову (пластыка вакалу), Алесю Сандлер (музычная архітэктоніка), Міколу Кірычэнку і Валодзю Рудава (акцёрскае майстэрства). Падабралася каманда — залатовачка да залатовачкі...**

**Георгій КОЛАС.**

## МУЗЫКА

### Не знямела Бацькаўшчына

Ох, гэтыя лаўры скандальнага рок-канцэрта ў Тушыне, у Маскве! Захацелася і нашаму ТБ наладзіць «штосьці такое». У падтрымку суверэнітэту Беларусі. Акцыя адбылася ў мінулую суботу ў Мінску. А ў аўторак, напярэдадні адкрыцця сесіі ВС Беларусі, Дзяржтэлерадыё правяло сустрэчу з песняй (гл. анонс у мінулым нумары «ЛіМа»).

Залу тэатра музкамедыі, адкуль ішла «жывая» трансляцыя ў эфір, запоўнілі людзі розных сацыяльных груп, рознага ўзросту. А перш чым загучала песня, на тэлеманіторах з'явіўся калаж з сёлетніх газет. Прамільгнуў і лімаўскі загаловак: «Мы павінны загаварыць». Потым з экрана звярнуўся да гледачоў паэт С. Грахоўскі: «Мы насельніцтвам станем, і толькі, калі мову забудзе народ...» Пад час канцэрта неаднойчы з'яўляліся ў кадры вядомыя дзеячы нашай культуры. «Баіцца быць беларус беларусам», — чытаў новы верш А. Вярцінскі. «Давайце разам папраўляць памылкі», — заклікаў Б. Сачанка, распавёўшы пра лёс беларускай культуры, нацыянальнай інтэлігенцыі і стаўленне да яе з боку колішніх партыйных кіраўнікоў. «Дык як жа будзем жыць?» — пыталася радкамі Н. Гілевіча вядучая канцэрта З. Бандарэнка. «Суродзічы мае! Каб нам не анямець, давайце гаварыць на беларускай мове!» — заклікаў са сцэны паэт Л. Пранчак...

І гучала мноства беларускіх песень. Былі папулярныя, былі і прэм'еры: ««Беларускае танга» І. Лучанка, «А ў гасцях» Д. Яўтуховіча, «Не хадзі, казача» Э. Зарыцкага... Не збяднела Беларусь на песні, а беларуская песня — на чулых, удзячных слухачоў. Тэлебачанне дапамагло гэта адчуць...

### Наша «зорачка» ў ЗША

Трэцякласнік Музычнага ліцэя пры БДК Коля Гімалетдзінаў (клас У. Перліна) у складзе групы таленавітых дзяцей з Савецкага Саюза ўдзельнічаў у канцэртах, што праходзілі ў ЗША пад эгідай фонду «Новыя імёны». Першы канцэрт быў для сакратароў ды гасцей ААН, на ім прысутнічаў Генеральны сакратар ААН Х. Перэс дэ Куэльяр. Затым — выступленне ў шпіталі Нью-Йорка для дзяцей з Беларусі, якія лечацца ад хвароб, што развіліся пад уплывам чарнобыльскай радыяцыі. Гэты канцэрт трансліраваўся на ўсю Амерыку і меў шырокі водгук сярод жыхароў краіны. Адбылося і выступленне ў прадстаўніцтве СССР (прысутнічаў міністр замежных спраў Б. Панкін). Сярод тых, хто суправаджаў нашых дзяцей, былі члены Савецкага камітэта абароны міру А. Карпаў і С. Бэлза, вядучы перадачы «Музыка ў эфіры», які рыхтуе тэлесправаздачу пра гэтую вандроўку. Уражвае, што пасля такога напружанага падарожжа Коля Гімалетдзінаў адразу ж уключыўся ў працу: 12 кастрычніка з вялікім поспехам прайшоў канцэрт нашай «зорачкі» ў зале на Залатой Горцы.

**А. МІЛЬТО.**

### Сярод першых

Ларыса Балдыка, маладая выкладчыца Музычнага ліцэя пры БДК, узяла ўдзел ва Усесаюзным конкурсе музыкантаў-духавікоў у Тамбове. Беларуская флейтыстка аказалася сярод лепшых і заняла другое месца.

**С. М.**

### Лыжкі музычныя, каробачкі рытмічныя...

Учора гэтыя ды дзесяткі іншых адмысловых, можна сказаць, мастацкіх, вырабаў былі прадстаўлены на аўкцыёне музычных інструментаў, праведзеным у Мінску. Дакладней, гэта была выстаўка-аўкцыён, якая з 15 па 17 кастрычніка працавала ў адной з залаў Музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і ладзілася асацыяцыяй майстроў музычных інструментаў Саюза музычных дзеячаў Беларусі. Калі наведнікі і не набылі нічога на аўкцыёне, дык з цікавасцю падзівіліся на жалейкі У. Пузыні і В. Кульпіна, на экзатычную кменную сурму В. Пратасевіча і гармонікі В. Размысловіча, скрыпку В. Жукоўскага, смыкі В. Ключнікава, дудкі Д. Равенскага... Рэдкая магчымасць!

## МАСТАЦТВА

У Доме работнікаў мастацтваў—выстава твораў жывапісца Міколы Цудзіка: краявіды, партрэты, нацюрморты. Усё ў межах традыцыйнага рэалізму. Аднак сёння, калі авангарду стала болей, чым патрабуецца для экалогіі культуры,— прыемна паглядзець на мастака, які вучыцца ў прыроды і малюе з натуры.

●

Тры адносна маладыя мастакі - жывапісцы Ігар Бархаткоў, Уладзімір Кожух, Віктар Шкаруба занялі сваімі творамі вялікую залу Палаца мастацтваў. На выставе няма, лічы, ніводнага палатна на палітычную тэму, і сама выстава ўспрымаецца як твор паслякамуністычнай культуры. Ігар Бархаткоў шукае сябе ў рэлігійных (праваслаўных) матывах. Творы Уладзіміра Кожуха, нават самыя звычайныя, побытавыя сюжэты, здаецца, маюць чарнобыльскі падсвет. Але дзякуючы высокаму густу ён не перабольшвае з трагізмам. Глядзіць на жыццё філасофскі. Віктар Шкаруба валодае рэдкім для гараджаніна талентам адчуваць прыроду. Відаць, гэта натуральны шлях мастацтва: ад эмацыянальнага ўспрымання падзей, праз іх асэнсаванне, да адвечных каштоўнасцяў.

●

Услед за Міхаілам Савіцкім дабрачынную выставу сваіх твораў наладзіў другі вядомы майстар Леанід Шчамялёў.

●

У канцы кастрычніка ў Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі адкрыецца экспазіцыя графічных твораў аднаго з карыфеяў мастацтва XX стагоддзя скульптара Генры Мура (Вялікабрытанія). Гэта асоба такая ж легендарная, як Пабла Пікасо, Сальвадор Далі, Марк Шагал. Зразумела, хацелася б пабачыць, не выязджаючы з Мінска ў Лондан, а таксама ў іншыя культурныя цэнтры Захаду, славутыя скульптуры Генры Мура... Але пакуль будзем удзячны і за тое, што нам прапануюць.

### Успомнілі Мікалая Рэрыха

Актывісты Беларускага фонду Рэрыхаў, які ўзначальвае паэт Алесь Разанаў, правялі ў Доме літаратара вечар, прысвечаны 117-ай гадавіне з дня нараджэння Мікалая Канстанцінавіча Рэрыха. Згадваліся асноўныя моманты яго жыцця і творчасці, закраналіся розныя аспекты пытання Рэрых і Беларусь.

## ЛІТАРАТУРА

### Любіць Цвятаеву Беларусь

Чарговая паэтычная пятніца ў Доме літаратара прайшла пад дэвізам «Марына Цвятаева і Беларусь». Вядучай была паэтэса Валянціна Аколава, якая падрыхтавала зборнік твораў М. Цвятаевай у перакладзе на беларускую мову. Выступілі таксама народная артыстка Беларусі М. Захарэвіч, заслужаная артыстка Т. Мархель, акцёр А. Шэдзька, кампазітар В. Сярых, паэтэса А. Кажэра. Гучалі рамансы на словы М. Цвятаевай, яе вершы.

### Правы... Вярнуцца назад?

Выдавецтва «Беларусь» ад выпуску кніг, прапагандуючых рашэнні партыйных з'ездаў і пленумаў, паступова пераходзіць да літаратуры, што адлюстроўвае найбольш значныя перыяды нацыянальнай гісторыі. З шэрагу падобных выданняў — даследаванне І. Юхо «Крыніцы беларуска-літоўскага права». Назва, праўда, не сказаць каб арыгінальная, але кніга надзвычай цікавая. Аўтар разглядае важнейшыя беларускія прававыя дакументы эпохі феадалізму — граматы, статуты, іншыя матэрыялы. Асноўная ж увага ўдзелена славутаму Статуту 1588 года — аднаму з самых дасканалых заканадаўчых актаў у тагачаснай Еўропе, напісанаму на беларускай мове. Гэты Статут на працягу двух з паловай стагоддзяў быў дзеючым законам, асновай усёй прававой сістэмы Беларусі і Літвы.

Цяпер мы шмат спрачаемся аб правах чалавека, прымаем чарговыя законы, якія б гэтыя правы абаранялі. А мо няма патрэбы вынаходзіць нешта новае, а вярнуцца да добрага старога? Да таго самага Статута 1588 года?

## КІНО

### На мяжы магчымасцей

Сёлета ў павільёнах кінастудыі «Беларусьфільм» здымаецца каля 30 фільмаў. З іх толькі тры тэлевізійныя і адзін мастацкі здымаюцца на дзяржаўныя грошы і па сцэнарыях, зацверджаных рэдкалегіяй студыі. Астатнія фільмы — робяцца кааператыўнымі аб'яднаннямі, да якіх кінастудыя не мае адносін. За выкарыстанне студый кааператывы выплачваюць вызначаныя сумы, якія ідуць на патрэбу «Беларусьфільма».

У кінастудыі, якая зараз цалкам загружана, нямала праблем. Тэхнічнае абсталяванне засталося на ўзроўні 30—40-х гадоў. Няма запчастак для тэхнікі гуказапісу і няма валюты, каб іх купіць. Цяжка працаваць у самім атэлье гуказапісу, бо ў ім адчуваецца вібрацыя метрапалітэна — станцыя «Маскоўская» знаходзіцца побач. А пабудова новага тэхнічнага комплексу толькі плануецца. Пакуль што выконвае планавыя пастаўкі плёнкі Шосткінская кінафабрыка, пакуль...

Між тым Міністэрства культуры Беларусі вылучыла на год на развіццё беларускага кіно шэсць з паловай мільёнаў рублёў. Пры сённяшніх цэнах гэтых грошай можа хапіць на два фільмы па сучаснай тэматыцы або на адзін гістарычны мастацкі фільм...

**Ягор КОНЕЎ,**
**студэнт факультэта журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна.**

## ТЭАТР

### Казка, сугучная часу

Пастаноўка знакамітага «Церамка» хвалюе Віктара Клімчука, галоўнага рэжысёра тэатра «Лялька», што ў Віцебску. Задуму пастаноўшчыка вылучае адметнасць трактавання матэрыялу:

— Мы ставім такія творы, якія сугучны нашаму сённяшняму дню. Што гэта такое? Ну, да прыкладу, казка «Церамок». Які сэнс яна нясе ў сабе? Звяртаемся да гісторыі. Памятаеце, як войскі Антанты беглі на Захад пад ударамі Чырвонай Арміі? Памешчыкі і капіталісты пакідалі свае дамы. І чырвоныя войскі займалі гэтыя будынiны. Вось і казка «Церамок».

Цікава было б паглядзець, як пяць мужчын і шэсць жанчын, што складаюць, паводле Віктара Ігнатавіча, трупу тэатра і якія, на ягоную думку, мусяць быць вельмі рэлігійнымі, як увесь беларускі народ («гэта нацыя веруючых»), здолеюць спраўдзіць адметнасць церамкоўскай задумы свайго кіраўніка.

**Са спасылкай на газету «Віцебскі рабочы»— Жана ЛАШКЕВІЧ.**

### Жабракі павесялелі



Народзіны новага тэатральнага прадпрыемства, якое самі акцёры пакуль што сціпла называюць «спектаклем групы «Вясёлыя жабракі», прыпалі акурат на аўторак мінулага тыдня; выпускны спектакль акцёрскага курса БДТМІ (кіраўнік курса — А. Андросік) паводле Р. Бёрнса, У. Блэйка, не дужа імяніты і зусім невядомых вагантаў быў дапрацаваны рэжысёрам Міхаілам Кавальчыкам для першых гастроляў па... Краснаярску і вобласці (Міхаіл Станіслававіч — мастацкі кіраўнік тамтэйшага тэатра музычнай камедыі). Ягоны сын Сяргей Кавальчык — таксама мастацкі кіраўнік, а Сяргееў аднакурснік Валерый Варэс — дырэктар новага тэатральнага прадпрыемства (праўда, падзел пасадаў досыць умоўны). У музычным спектаклі (музыка С. Кавальчыка, В. Варэса, А. Сандлер, якая займаецца з групай вясёлых жабракоў музыкай; педагог групы па вакале — Д. Іванова) скарыстаны пераклады С. Маршака; у другой дзеі (ці аддзяленні?) спектакля ўдзячныя групоўцы-жабракі разыгрываюць на яго пародыю.

### У аўстрыйскай правінцыі

Акцёры з Аўстрыі, Германіі і Швейцарыі сышліся ў пастаноўцы рэжысёра з Беларусі: прэм'ера спектакля «Служанкі» Жана Жэнэ мае адбыцца 24 кастрычніка ў Кёлертэатры горада Філаха (Аўстрыя). Ягоны аўтар — Рыд Таліпаў (ажыццявіў рэжысуру, музычнае афармленне, выявіў сцэнаграфічную вынаходлівасць). Драматургам прадугледжана адна старасвецкая тэатральная ўмова, якую рэжысёр з Беларусі, паводле папярэдніх водгукаў тамтэйшай прэсы, спраўджвае бліскуча: усе жаночыя ролі з тактам і добрым густам выконваюць мужчыны, а менавіта Дзітар Гунар (Мадам), чыя трыццаць першая роля прыпала на гэткую неспадзяванку, Энтан Конар (Клер), якому любоў да прыгожых мастацтваў перайшла ў спадчыну ад прадзеда па маці, знакамітага кампазітара А. Дворжака, ды Вальтар Камерлоэр, пра якога ніякіх цікавых падрабязнасцяў паведаміць не можам, акрамя як пра адметнае выкананне ім ролі Саланж.

## РЭПЛІКА

### Тэст на арэнду

Зазірніце, спадары, у слоўнік, самы дакладны і тоўсты, ды знайдзіце там слова «арэнда», каб даведацца пэўна, што ж гэта такое. Бо мяне, напрыклад, ужо ніякае тлумачэнне не пераканае: арэнда ў звязку з тэатрам, я ўпэўнены, гэта мерапрыемства, якое мае на мэце тое, чаго ў тэатры рабіць няможна: святкаваць юбілей, вяселле ці балявань без нагоды. Не буду падрабязна апісваць усе забавы, гульні, жарты — сам працэс, так бы мовіць, «арэнды» тэатра якою-кольвек гарадскою ўстановаю ці арганізацыяй, але, дайце веры, нагледзеўся ды пераканаўся: крыніца не можа адначасова з'яўляцца прыбіральняю... Яна ўжо крыніцаю не будзе...

Мо я нічога не разумею? Мо арэнда тэатра пад забаўляльны гармідар — гэта р-раз і шмат рублёў прыбытку? А калі ў тэатры рэстарацыю адчыніць? А калі мэблю рабіць? А калі бутэлькі прымаць? А калі... калі... калі...

Я, беларус, меў шчасце вучыцца ў Санкт-Пецярбурзе. Ніколі не заспяваў у гарадскіх тэатрах п'яных дзецюкоў з гаспадарскім выглядам: «А чё, нильзя, чё-ли, мы деньги платили!» У сваім, Гродзенскім лялечным, бачыў, чуў і нават дапамагаў шукаць выйсце...

Маю невялічкі тэст для спадароў творчых работнікаў. Сядайце, калегі, заплюшчвайце вочы і паволі прамаўляйце: «Тэ-атр...» Ці значыць яно для вас хоць штосьці, — прызнайцеся хоць самім сабе. І калі не атрымліваецца адчуць усю значнасць ды велічнасць, кідайце гэтую тэатральную справу, ад якой ні славы, ні грошай, адна «арэнда»...

**Юрый ДАВЫДЗЮК,**
**галоўны мастак Гродзенскага лялечнага тэатра.**

# НАПАЧАТКУ БЫЛА ЗЯМЛЯ

(Пачатак на стар. 3).

гарадскога пасёлка Поразава. У гэтых школах з верасня ўсе першыя класы пачалі працаваць па беларускіх праграмах. Толькі ў Свіслачы пакінуты адзін рускамоўны клас для дзяцей ваеннаслужачых.

Такое (можа, пэўным чынам і дэкрэтыўнае) рашэнне раённых улад тым не менш успрынята бацькамі лаяльна. «Чаму?» — пацікавіўся я ў намесніка загадчыка раённага аддзела народнай адукацыі, старшыні сакратарыята раённай арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны Л. Талай. «Відаць, таму, што рашэнне райвыканкома прыйшлося на падрыхтаваную глебу. Па-першае, у раёне не такой ужо і паншчанай аказалася традыцыя нацыянальнай асветы. Па-другое, год таму ўзнікла ТБМ, якое хоць і вяло ў асноўным прапагандысцкую дзейнасць, але, як выявілася, на першым часе патрэбна і такая работа — каб слых людзей прызвычаіўся да беларускага слова, каб беларусізацыя ўспрымалася як натуральны працэс. Бацькі зразумелі, што і вышэйшыя навучальныя ўстановы, не толькі школы, незваротна беларусізуюцца, таму нейкага непаразумення, тым болей — супраціву, не было».

Затое рашэнне аб беларусізацыі сярэдніх школ паставіла ў праблематычны стан дырэкцыю дашкольных дзіцячых устаноў—садкоў і ясляў. Вось што расказала ў гутарцы са мной загадчыца Свіслацкага дзіцячага садка № 1 Антаніна Іосіфаўна Мураўёва: «Калі мы даведаліся пра тое, што першыя класы ў школах пасёлка сталі беларускамоўнымі, дык зразумелі, што й нам трэба нешта рабіць, бо нашыя гадаванцы з рускамоўнага садка патрапяць у беларускую школу. Схадзіла на пачатку заняткаў у школу, паразважала, затым сабрала калектыў: так вось і так, што будзем рабіць? Паразумеліся, што адпаведныя змены трэба рабіць і нам».

«Але, як хутка высветлілася, — кажа далей загадчыца садка,— няма «па чым» праводзіць беларусізацыю: у садках жа ніякай дапаможнай, метадычнай літаратуры нямашака, уся літаратура на рускай. За падпіску на часопіс «Вясёлка» і то вярнулі назад грошы...»

— Дык як жа вы тады працуеце? — пытаюся ў загадчыцы.

— Ведаеце, саматворым. Вырашылі саматугам перавесці выхаваўчы працэс на беларускую мову. Пачалі казкі перакладаць з рускай мовы, праводзіць гульні па-беларуску, тлумачыць дзецям значэнні слоў беларускіх (натуральна, і алфавіта). Сёння, напрыклад, вывучалі словы «гародніна» і «садавіна», а таксама «буракі», «парэчкі» і іншыя. За гадзіну дзеці ўжо пачынаюць разумець іх сэнс і нават прыемна здзіўляюць дома бацькоў, паўтараючы новыя словы, вывучаныя ў садку.

— Ці ва ўсіх калег атрымліваецца гэткае, як вы сказалі, саматварэнне?

— Асабіста я вырасла ў вёсцы, але закончыла Гродзенскі педагагічны інстытут па рускай праграме, тады, у 60-я, лічылася нават прыкметай розумавай адсталасці размаўляць па-беларуску... 18 гадоў працавала ў школе, зноў жа карыстаючыся рускай мовай. Але—паверце — апошні год, слухаючы выступленні ў абарону мовы, чытаючы публіцыстыку, нейкае прасвятленне прыйшло, ці як гэта сказаць. Здаецца, самі сабой пачалі ўзгадвацца словы, складвацца сказы, пачала гаварыць і думаць па-роднаму...

Ёсць у нас выхавацелі і з расейскай адукацыяй. Гэта маладыя дзяўчаты. Ім вельмі цяжка, асабліва псіхалагічна, бо стасункавае асяроддзе пасля работы вымагае зусім не беларускай, а іншай, незразумела якой мовы. Ім складана, але вучу іх натхняцца нашай справай, не падаць духам, і ні ў якім разе не саромецца беларускага слова. Дзецям якраз і лягчэй казаць «Добры дзень» і «Дзякуй», бо на тое яны і дзеці, каб не саромецца. А вось маладым — цяжэй,— сведчыла загадчыца дзіцячага садка А. Мураўёва.

Згодна з загадчыцай і выхавацелька Соф'я Фёдараўна Собалева, якая на Свіслаччыну прыехала з Расіі пасля вайны, але 30 гадоў выкладала ў беларускай пачатковай школе. Толькі дадала: «Цяпер у нас свабода, ніхто нічога не патрабуе, бо не ведаюць, што патрабаваць — адзінага выхаваўчага стандарту няма. А нам, выхавацелям, пра тое і вальней».

Сэнс слова «саматварыць», якое ўжыла загадчыца дзіцячага садка, стаў асабліва зразумелым, калі яна на развітанне завяла мяне ў пакой, дзе размешчаны народны музей, што створаны за мінулае лета зноў жа рукамі педагогаў і з дапамогай бацькоў. Першае, што кінулася ў вочы,— гэта абраз у куце, агорнуты льняным ручніком з арнаментам,—зусім як у сялянскай хаце, па сценах — саматканыя дываны, паясы, фіранкі — саморобныя, на лавах — лапці, кошыкі, глечыкі, збанкі, выробленыя саматужнымі ганчарамі з Поразава, куфар, калыска. Так бы мовіць — народнае мастацтва Беларусі ў мініяцюры. «Тут мы штодзень бываем і вучым назвы гэтых рэчаў»,— гаворыць загадчыца садка. («Мы» — гэта іхнія гадаванцы). Такія ж «нацыянальныя куты», як давялося пабачыць, зроблены ў пакоях для адпачынку, напрыклад, ёсць такія ж калыскі для дзіцячых гуляў, цацкі.

Усё ў садку зроблена сваімі рукамі, бо каб і хацеў мець такую аздобу, ды нічога «падобнага» ў магазіне не купіш. Нават і песні беларускія — уласнай творчасці, на гэта дужа спрытны музычны кіраўнік садка Яўген Аляксандравіч Жук. Друкаваных песеннікаў у беларускай мове для дзяцей пакуль што таксама няма, так што даводзіцца быць адначасова і музыкам, і кампазітарам, і паэтам...

«А як жа з задавальненнем ад працы?» — спытаеце вы. Сярод выхавацеляў я не пабачыў каго-небудзь змрочнага, незадаволенага працай. Наадварот — адчувалася нейкая натхнёнасць, імпэт, аб чым вымоўна казалі ўсмешкі на тварах, захопленыя вочы.

— Калі дзеці адчуваюць захопленасць выхавацеля, яны абавязкова да яго пацягнуцца, — гаварыла А. Мураўёва.— А мы захапіліся саматварэннем. Цешыць, што з часам і бацькі больш уважліва прыслухоўваюцца да нашага сумоўя з дзецьмі, нават застаюцца пад вечар даўжэй, каб павучыцца мове, і нават не мове, а — смеласці. Так і працуем.

Так і працуюць — саматвораць выхавацелі Свіслацкага дзіцячага садка № 1. Можа, такое саматварэнне і ёсць натуральная метода не толькі «беларусізацыі», але ўвогуле выхавання і педагогікі? Педагогікі, пазбаўленай абавязковых для ўсіх форм выхавання, абавязковых для ўсіх казак пра Ільіча і армію, але напоўненай самастойным шуканнем новай духоўнасці і сяўбой зярнят роднай мовы. Пабачым, якое жніво ўдасца свіслацкім педагогамтворцам.

## КУДЫ ВЯДУЦЬ ПОЛЬСКІЯ ШЛЯХІ?

Знаёмячыся са Свіслаччынай, бываючы ў школах, я патрохі пачаў усведамляць, што сам па сабе Закон аб мовах з'яўляецца дакументам больш **духоўнага**, чым юрыдычнага зместу. Бо ўсякі юрыдычны дакумент прадугледжвае і санкцыі за ягонае невыкананне, чаго ў Законе аб мовах няма. Ён хутчэй за ўсё нагадвае ці не колішнія партыйныя пастановы, у якіх фіксаваліся няпэўныя, быццам знарок незразумелыя, эфемерныя пункты і такія ж адвольныя, нікога не абавязваючыя тэрміны іх выканання.

Закон аб мовах больш кліча да душы, да сумлення чалавека, чым да прававой свядомасці. А санкцый супраць душы пакуль не вынайдзена. У гэткім—гуманістычным змесце закона—бачыцца ягоная і сіла, і слабасць, бо выкананне яго цалкам залежыць ад нораваў людзей, на якой бы яны пасадзе ні працавалі.

На Свіслаччыне мне выдалася надзвычайная мажлівасць зрабіць параўнанне беларускага руху з іншым рухам за адраджэнне—польскім. Як выявілася, польскі рух тут таксама арганізаваны на юрыдычным узроўні (да нядаўняга часу—мясцовая філія культурна-асветнага таварыства імя А. Міцкевіча, зараз—раённы аддзел Саюза палякаў Беларусі, СПБ). Сканцэнтравана польская работа ў мястэчку Поразава, куды я і завітаў.

Скуль і калі з'явіліся ў гэтых яцьвяжскіх краях палякі? Пытанне далікатнае, але разам з тым і фатальна невытлумачальнае. Маюцца звесткі, што сюды, у Чорную Русь, палякі пачалі пранікаць ужо ў XII стагоддзі, але тады ж на ўскраінах Белавежскай пушчы аселі і полаўцы, пазней з'явіліся селішчы татар, з XIV стагоддзя пасяліліся яўрэі. Назвы мясцовых вёсак, прозвішчы тутэйшых людзей, адметныя дыялектныя слоўцы сведчаць аб багатай нацыянальнай гісторыі Свіслаччыны. Але ўсе гістарычныя крыніцы гавораць аб тым, што субстратам тут ад пачатку з'яўляліся беларусы—ліцьвіны, астатнія ж этнічныя ўкрапленні з'явіліся паводле палітычных змен у Вялікім княстве Літоўскім. Ды й здзіўляе, чаму гэта пасярод масіву беларускіх вёсак раптам пракідваюцца польскія астраўкі, межы якіх вельмі дакладна вызначаны?

Возьмем, напрыклад, мястэчка Поразава. Тубыльцы клічуць поразаўцаў «казінцамі». Чалавек недасведчаны можа падумаць, што гэта з-за таго, маўляў, што поразаўцы захапляюцца гадаваннем коз. Многія так і лічаць. Многія, але не ўсе. Мастак-самародак з вёскі Кулявічы Мікалай Сцяпанавіч Ламаска, напрыклад, яшчэ ад дзеда пачуў, а затым пераканаўся па кнігах, што пры Вітаўце Вялікім ля Поразава месцілася каралеўская рэзідэнцыя, а поразаўцы належалі да княжацкіх—казённых!—сялян, якія ладзілі князю паляванне, будавалі дарогі, служылі на пошце, — не былі прыгоннымі. Такімі ж «казённымі» былі сяляне некалькіх прыпушчанскіх вёсак—акурат сённяшніх польскіх. Свой гістарычны гонар яны-то здолелі захаваць, а вось нацыянальны—перамяніўся разам з пераменамі ў ВКЛ...

Але сёлета было б несамавіта нешта даказваць, спрачацца, больш слушна, на мой розум, прымаць рэчаіснасць як дадзенае, бо стагоддзямі жывуць на свіслацкай зямлі поруч беларусы і палякі, яўрэі і расейцы, і ніколі тут не ўзнікала патрэбы спрачацца аб тым, хто з іх праўдзівы паляк ці расеец, ці беларус—людзі займаліся адной жа працай і гаравалі аднолькава. Усе яны—соль гэтай зямлі.

...Сярэдняя школа мястэчка Поразава да лета гэтага года з'яўлялася рускамоўнай, а сёлета першыя класы сталі беларускімі. Дырэктар школы Генадзь Леанардавіч Масюк (па нацыянальнасці—паляк), размаўляючы са мной, выказаў талерантнае стаўленне да беларускага адраджэння, хаця ў першую чаргу з'яўляецца прыхільнікам адраджэння сваёй нацыянальнай культуры і актыўна працуе ў СПБ. І вынікі руплівасці аб «сваім» значна большая. Напрыклад, польская мова ў школе факультатыўна вывучаецца ўжо тры гады, для гэтага яшчэ ў 1989 годзе, калі пра беларусізацыю і не было чуваць, былі сабраны заявы бацькоў-палякаў. А сёлета польская мова вывучаецца як прадмет у пачатковых класах, і як факультатыў—да адзінаццатага. З 314 вучняў польскую мову вывучаюць 127. Улічваючы тое, што з 2-га класа і беларуская мова вывучаецца толькі як прадмет (у старэйшых класах—2 гадзіны (!) у тыдзень), і такое становішча не зменіцца, пакуль цяперашні першы клас не стане 11 класам, выпускным, — можна самазапытацца: «А ці ж была беларусізацыя?»

Зрэшты, праведзеная гэткім парадкам беларусізацыя не ёсць прыхамаць дырэкцыі: ёй так прадпісана. Але нават вакол такой беларусізацыі ў суседнім, Бераставіцкім раёне, тэмтэйшыя палякі ўсчалі лямант, калі даведаліся пра пераход рускамоўных школ на беларускую мову навучання, і дайшлі з пратэстам аж да Міністэрства народнай адукацыі. Ім там настойліва параілі пільней чытаць дзяржаўныя законы і прыступаць да вывучэння беларускай мовы. Аказваецца, ёсць строгасць і ў нашай улады!

Тым не менш старшыня свіслацкага аддзела СПБ Міхаіл Вайцяхоўскі, інжынер-механік (закончыў БПІ) саўгаса «Поразаўскі», у гутарцы са мной сказаў шчыра, што іх аддзел таксама будзе дамагацца, каб Поразаўская школа была ўсё-ткі рускамоўнай. На маё здзіўленае пытанне «чаму?» Міхаіл адказаў, што ёсць вопыт такой жа адукацыі ў Летуве, дзе палякі не вучацца ў летувіскіх школах. Ён забыў дадаць, што ў Летуве—увогуле польскія школы, а ў нас такой традыцыі няма...

Настойлівасці і чыннасці польскіх дзеячаў можна пазайздросціць: польская мова, акрамя Поразава, вывучаецца ў абедзвюх школах г. п. Свіслач і чатырох сельскіх школах. Як выказалася адна з настаўніц, польскае таварыства, змагаючыся за свае інтарэсы, выціснула мясцовыя ўлады як лімон. Як паставіліся да гэтай з'явы браткі-беларусы? Можа, лепей пачалі дбаць аб сваім? Не. Як высвятляецца, у класах, якія не вывучаюць польскую мову, вучыцца меншасць вучняў, прычым гэта як правіла вучні адсталыя ў навуцы, «мужыцкія дзеці», як сказала адна з настаўніц. Затое імпэтна вучаць польскую мову—прычым вучаць дасканала, на літаратурным, а не аматарскім, як беларускую, узроўні,—дзеці больш заможных бацькоў—«шляхты», па словах той жа настаўніцы. Для адной дзяўчынкі бацькі-беларусы (па адукацыі, дарэчы, педагогі) на лета нават нанялі рэпетытара, каб той падцягнуў дачку ў польскай мове і каб яе змаглі прыняць у польскі факультатыў. Праз «зубрэнне» тая і дамаглася свайго. Але ў той жа час для гэтай дзяўчыны, якая праз некалькі гадоў скончыць школу па рускай праграме (гэта значыць, не будзе ведаць беларускай мовы), чамусьці не нанялі рэпетытара па роднай мове, каб падрыхтаваць для далейшае адукацыі...

Растлумачыць гэткі феномен я папрасіў настаўніцу беларускай мовы і літаратуры ў Поразаўскай школе Надзею Іванаўну Місюлю.

— Польскае таварыства за тры гады сваёй дзейнасці вунь колькі зрабіла, — кажа яна.— Вывучэнне польскай мовы ў школе, пастаянныя экскурсіі ў Варшаву на вакацыях, уладкаванне ўжо васьмі выпускнікоў на вучобу ў вышэйшыя ўстановы Рэчы Паспалітай (медыцынскую акадэмію, педагагічны інстытут, тэхнічную школу), багатыя замежныя падарункі (цукеркі, пернікі) дзецям, якія належным чынам вывучаюць польскую мову—усё гэта паслужыла моцнай стымуляцыяй для ўсіх вучняў, не толькі для дзяцей з польскіх сем'яў. А наша раённая суполка ТБМ імя Ф. Скарыны што можа прапанаваць? Толькі патрыятычныя заклікі ды цытаты з Ф. Багушэвіча. Дзецям жа патрэбны зусім простыя і цікавыя рэчы: тыя ж экскурсіі дый, па праўдзе кажучы, добрая цукерка зараз таксама стымул, не кажучы ўжо пра магчымасць далейшай адукацыі на Захадзе... На маю думку, Закон аб мовах не прадуманы прагматычна,—кажа Надзея Іванаўна і працягвае:

— Мясцовыя беларусы, шукаючы выгод для дзяцей, апантана кінуліся да магчымасцей Польшчы, думаючы, мабыць, што ўсе іх дзеці так туды й патрапяць на вучобу...

Натуральна, сказанае — толькі сведчанне аб пэўнай тэндэнцыі сярод беларусаў Гродзенскай вобласці, але калі тутэйшыя палякі адкрыта кажуць, што так, іх Бацькаўшчына знаходзіцца тут, на Беларусі, але «Отчизна»—за мяжой, дык правамоцна пытанне: «Якую ж Айчыну шукаюць за мяжой беларусы?». Можа, такая меркантыльная накіраванасць і не з'яўляецца заганнай у плане пошукаў лепшага дабрабыту, але ці не сказана таксама, што «не хлебам адзіным...»? Куды прывядуць беларусаў польскія шляхі—сапраўды неспавядальна...

А выкладанне польскай мовы ў Поразава, дарэчы, вядуць настаўнікі-самавукі, і вядуць таленавіта—сам нават пашкадаваў, прысутнічаючы на ўроку Ніны Васільеўны Вайцяхоўскай, што ў свой час не меў магчымасці дадаткова вывучыць у школцы яшчэ адну замежную мову. На ўроках польскай мовы дзеці засвойваюць шмат лексікі, якая гучыць і ў нашай мове. Так, напрыклад, на тым уроку, дзе давялося прысутнічаць, дзеці вывучалі словы «чынносць» і «начыне» («посуд»).

Думалася пасля: з такімі заўзятымі настаўнікамі праз некалькі гадоў школа па духоўнасці хутчэй стане польскай, чым беларускай, бо настаўнікі-беларусы пакуль што чагось чакаюць, вагаюцца—пачынаць ім усе школьныя мерапрыемствы праводзіць па-беларуску ці не. Хаця мовай валодаюць. Сам дырэктар-паляк, натуральна, не падае асабістага прыкладу беларускасці, але і супраць не выступае, ды звычка глядзець на начальства спрацоўвае, бадай, і тут, у школе. Праўда, нядаўна з раённага аддзела народнай адукацыі ў школу прыйшоў цыркуляр—перавесці справаводства на беларускую мову, а гэта значыць, што цяпер выступленні давядзецца перакладаць на родную мову, калі адразу карыстацца ёй публічна не хапае смеласці. Можа, хоць гэта перапыніць ваганні і боязь беларусаў?

## СТРАЧАНАЕ ЛЁГКА АДРАБІЦЬ

Патрапляючы ў аддаленае ад Менску месца і стасуючыся з тутэйшымі людзьмі, пачынаеш разумець, наколькі абядняе сябе журналістыка, якая абапіраецца на выказванні толькі менскіх, сталічных дзеячаў, і наколькі створаная так карціна адраджэння з'яўляецца штучнай, зафармалізаванай. Але ж Беларусь не заканчваецца на менскай аб'язной шашы, і ў глыбінцы жывуць і пасоўваюць справу адраджэння таксама таленавітыя, самаахвярныя людзі.

У Свіслачы мне пашчасціла сустрэцца і гаварыць з такім чалавекам—Аляксандрам Сямёнавічам Палубінскім, мясцовым «Міколам Ермаловічам». Ён, аддаўшы ўсё сваё жыццё школе (апошнія 30 гадоў быў

дырэктарам Свіслацкай СШ імя К. Каліноўскага), служыць цяпер навуковым супрацоўнікам у Свіслацкім гісторыка-краязнаўчым музеі, а ў дадатак узначальвае аддзяленне Фонду культуры і арганізацыю Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Аляксандр Сямёнавіч—прыхільнік канкрэтнай, забазаванай на мясцовых фактах і звестках гісторыі Бацькаўшчыны. Ён і ведае мінуўшчыну Свіслацкага краю як ніхто, спраўна друкуючы ў мясцовай газеце гістарычныя нарысы. Цяпер дбае аб стварэнні на свіслацкай зямлі комплексу-мемарыяла, прысвечанага К. Каліноўскаму.

Наша гутарка, якая пачалася з разваг пра лёс мовы, выйшла на шырокі, гістарычны кантэкст. Прапаную ў нязменным выглядзе выняткі з яе.

— Аляксандр Сямёнавіч, як вы лічыце, ці не наспела пара, вывучаючы гісторыю Бацькаўшчыны, «апусціцца на зямлю», на тое месца, дзе нашы асабістыя вытокі?

— Я лічу, што гісторыя для чалавека пачынаецца там, дзе ён нарадзіўся, выхоўваўся, вырас, працаваў, і вывучэнне роднага краю з'яўляецца стымулам, штуршком для вывучэння гісторыі ў больш шырокім плане. Мне здаецца, што вельмі трапна сказаў Ніл Гілевіч: «Углядайся, пільней углядайся, мой сыне, у святыя абрысы бацькоўскай зямлі». Іменна бацькоўскай — той, дзе жылі бацькі, дзяды, прадзеды. Трэба добра вывучыць мясцовую гісторыю, бо пакуль мы ведаем яе слаба. А менавіта такое веданне лучыць чалавека з Радзімай, не дазваляе адарвацца ад яе, праз такое веданне чалавек і пачынае ўсведамляць сябе носьбітам гістарычнай традыцыі і яе прадаўжальнікам.

— Якую ж традыцыю мае Свіслацкі край?

— Можна лічыць, што нашы продкі з даўніх-давён вельмі шанавалі асвету, кнігу. Мяне ўвесь час насцярожвала, чаму гэта менавіта выхадцы з нашага краю ўнеслі вялікі ўклад у распрацоўку граматычных норм беларускай мовы, дапаможнікаў.

Адным з такіх людзей быў наш зямляк, беларускі вучоны і лінгвіст, царкоўны дзеяч С. Богуш - Сестранцэвіч — дзядзька В. Дуніна-Марцінкевіча. Лічыцца, што ў канцы XVIII ст. ён напісаў беларускую граматыку, пакуль што неадшуканую. Тут жа, на Свіслаччыне, гадаваўся і навучаўся на роднай мове выдавец першай нелегальнай беларускай газеты Кастусь Каліноўскі. Стылістыка і лексіка «Мужыцкай праўды» захавала багацце мясцовых дыялектаў, гэта можна і зараз праверыць.

Менавіта тут, у Свіслачы, у часе нямецкай акупацыі ў 1916 годзе была адчынена першая беларуская настаўніцкая семінарыя, якая за два гады падрыхтавала 144 настаўнікі беларускай мовы для школ Гродзеншчыны, а дырэктар семінарыі свіслачанін Баляслаў Пачобка склаў і выдаў у 1917 годзе ў Вільні адну з першых беларускіх граматык.

Тут жа, паслугоўваючы ў Грынявіцкім касцёле, змагаліся за адкрыццё беларускай школы ў вёсцы Лапеніца ксяндзы Канстанцін Стаповіч (Казімір Сваяк) і Язэп Германовіч (Вінцук Адважны). Прамовы яны вялі на беларускай мове.

Пералічаныя факты сімптаматычныя: яны сведчаць пра тое, што нашы продкі стварылі вельмі жывучую мову, якая не знікла праз стагоддзі. І верагодна, што менавіта на тэрыторыі Свіслацкага краю фармавалася старажытная беларуская мова, бо тут адбылося сутыкненне дрыгавічоў з яцьвягамі, мова якіх і лічыцца «пра-мовай» для беларускай народнасці. Нездарма ж менавіта тут, на хутары блізу вёскі Новы Двор, нядаўна знойдзены слоўнік старажытнай яцьвяжскай мовы, аб чым ужо паведамляў рэспубліканскі друк.

І самае інтрыгуючае: ёсць меркаванне, што менавіта Свіслаччына дала назву «Русь». Аб гэтым яшчэ М. Ламаносаў пісаў, прапануючы паходжанне «Русі» шукаць не ля Дняпра, у які ўпадае рэчка Рось, а на Захадзе. Ля Поразава таксама ж пачынаецца рэчка Рось, якая цячэ ў Нёман, а ля Ваўкавыска маецца пасёлак Рось, і там жа распрацоўваюцца крэмніевыя шахты перыяду неаліту. Вядома, гэта толькі гіпотэза, але гіпотэза сур'ёзная. Так што мы жывём на зямлі з багатай гісторыяй.

— Відаць, таму так зацята змагаліся за сваю самабытнасць і мову нашы папярэднікі?

— Я ўвогуле лічу, што нашы продкі захавалі сябе беларусамі таму, што вельмі пільнаваліся сваёй зямлі, былі крэўна да яе прывязаны. Праз тое і захавалі сваю аўтэнтычнасць, мову...

— Якая зараз пачынае адраджацца...

— Так. З нашай мовай адбываліся дзіўныя рэчы. Да вайны ва ўсіх вялікіх вёсках і мястэчках дзейнічала Таварыства Беларускай Школы, якое стварала бібліятэчкі на роднай мове, рабіла пастаноўкі п'ес. І мы, вучні польскіх школ, вывучалі мову па граматыцы Б. Тарашкевіча, да гэтага нас заклікалі, дарэчы, многія сапраўдныя польскія інтэлігенты, настаўнікі.

Пасля вызвалення мы чакалі, што нарэшце будзем мову вывучаць свабодна. Па вайне ўсе школы з'явіліся беларускімі, існавалі таксама дзве школы польскія і адна яўрэйская. Але якось так адбылося, што паступова пасялковыя школы перавялі на рускую мову навучання.

— Пад прымусам?

— Якраз не. Здаецца, само так сталася, бо змянілася мова справаводства ў дзяржаўных установах, затым экзамены ў вышэйшыя ўстановы пачалі прымаць па-руску. І бацькі самі пачалі патрабаваць зрабіць школы рускамоўнымі... Дарэчы, свіслацкія ўлады вельмі доўга і ўпарта змагаліся з пераводам беларускіх школ на рускую мову...

— Зараз пачаўся адваротны працэс, дзейнічае Закон аб мовах. Ці задавальняе вас ход беларусізацыі?

— У нас адбыліся змены — вы іх самі назіраеце, але я лічу, што ТБМ імя Ф. Скарыны трэба рабіць больш.

— Дарэчы, як бы вы параўналі ТБМ з колішнім ТБШ?

— Вы ведаеце — ТБШ працавала актыўней, больш займалася адраджэннем мовы, чым ТБМ! Здаецца, цяпер хапае пісьменных людзей, настаўнікаў мовы з вышэйшай адукацыяй, не тое, што тады, калі асветнікі ТБШ мелі расейска-царкоўнапрыходскую адукацыю. Але руплівасці ў іх было больш.

— Чаго ж бракуе цяперашнім інтэлігентам?

— Яны, відаць, думаюць, што ўсё зробіцца само сабой, без іхніх асабістых намаганняў. Але без планавай, сістэматычнай, карпатлівай працы нічога «само сабой» не зробіцца. Трэба ўцягваць у адраджэнне мовы шырокае кола інтэлігенцыі, не толькі настаўнікаў, абавязкова вучняў, ствараць гурткі па вывучэнні мовы і краязнаўства, цікавіцца людзьмі, якія займаліся тут роднай мовай раней. І не трэба чагосьці чакаць, глядзець на тэрміны — трэба пачынаць штодзённую справу, тады сапраўды Закон аб мовах выканаецца «сам сабой». Страчанае вельмі лёгка адрабіць, калі ўсе свядома, ад душы ўключацца ў гэтае адбудаванне.

Так лічыць А. Палубінскі. І мне здаецца, што, сапраўды, суцэльная беларусізацыя школы на Свіслаччыне ідзе таму актыўна, што мацуецца багатай гістарычнай традыцыяй. Гэтаксама гістарычна абумоўлена і спакойнае, цывілізаванае развіццё польскай мовы, якая нікому пакуль што тут не перашкаджае.

І яшчэ адно назіранне. Можа, традыцыя так і засталася б незапатрабаванай, калі б у мясцовых органах улады і асветы не працавала пераважная большасць **сваіх** людзей, ураджэнцаў гэтых месц. У Свіслацкім раёне так яно і ёсць — улада ў людскім складзе тутэйшая, свая.

Свіслач — Менск.

# Зоська ВЕРАС

8 кастрычніка 1991 года на 100-м годзе жыцця памерла старэйшая беларуская пісьменніца, паплечніца Максіма Багдановіча, актыўная ўдзельніца Адраджэння Беларусі Зоська Верас (Людвіка Антонаўна Войцік).

Зоська Верас нарадзілася 30 верасня 1892 года ў мястэчку Мяджыбаж Падольскай губерні на Украіне. Маленства яе праходзіла на радзіме бацькоў — на Гродзеншчыне. Першапачатковую адукацыю атрымала ў сям'і. Потым была вучоба ў камерцыйным вучылішчы ў Кіеве, у прыватнай жаночай гімназіі ў Гродне, на агародніцка-пчалярскіх курсах у Варшаве.

Першае друкаванае беларускае слова трапіла ў рукі будучай пісьменніцы яшчэ на пачатку стагоддзя, калі Зосьцы Верас споўнілася ўсяго 14 гадоў. Гэта была газета «Наша Ніва» і зборнік вершаў Ф. Багушэвіча «Дудка беларуская». З таго часу яна — актыўны змагар за беларушчыну. У 1909 годзе ўступае ў Гродзенскі гурток беларускай моладзі. У 1916 — 1917 гадах разам з Максімам Багдановічам працуе ў



Мінскім аддзеле Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. Зоська Верас удзельнічала ў выданні альманаха «Колас беларускай нівы», выдала «Беларуска-польска-расейска-лацінскі слоўнік», адна з выдаўцоў газет Беларускай сялянска-рабочай грамады, вынесла з Віленскай турмы і выдала сваім коштам вершы М. Машары, была старшынёй Беларускага кааператыўнага пчалярскага таварыства «Пчала», рэдагавала дзіцячыя часопісы «Заранка» і «Пралескі», часопіс «Беларуская борць».

Друкавацца Зоська Верас пачала яшчэ ў 1907 годзе ў часопісе «Подснежник», з абразкамі выступала ў «Нашай Ніве». Яе творы змяшчаліся ў выданнях «Наш шлях», «Студэнцкая думка», «Шлях моладзі», «Беларуская ніва», «Народная справа», «Маладосць», «Літаратура і мастацтва» і іншых перыядычных выданнях. Перакладала з украінскай і рускай, аўтар успамінаў пра М. Багдановіча, У. Галубка, Ядвігіна Ш.

Палымянае слова пісьменніцы, чуйныя справы дачкі Беларусі назаўсёды застануцца ў памяці тых, хто ведаў яе, чалавека вялікага нялёгкага лёсу, шчырага сябра — Зоську Верас.

Нізка схіляем галовы перад яе жыццёвым і творчым подзвігам.

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ.**

# АБАРВАЎСЯ ВЕРАСОВЫ ШЛЯХ

Цяжка было вызнавацца беларусам у пасляваеннай Латвіі, Літве... І нядобры пагляд (нагляд) цярпеўся не так ад латышоў ці летувісаў, як ад «нашых». Таму спальваліся ці закопваліся людзьмі беларускія даваенныя падручнікі, матэрыялы прэсы, таіліся асабістыя архівы. Вось чаму напісала пра той неспрыяльны час Зоська Верас менавіта так: «Наступае некалькі гадоў нейкага духовага летаргічнага сну... А пасля мяне «разбудзілі», намовілі пісаць успаміны. Разбудзіў мяне Арсень Сяргеевіч Ліс».

Сёння немагчыма сказаць, а колькі людзей — юнакоў, падлеткаў, проста зацікаўленых беларусаў — разбудзіла сама Зоська Верас. «Стараюся,— гаварыла яна,— каб не прапаў след беларускага жыцця ў Вільні ад нашаніўскай пары аж да другой сусветнай вайны». І яна ўкладае альбомы фотаілюстрацый пра гісторыю Віленскай, Радашковіцкай, Нясвіжска-Клецкай беларускіх гімназій, дапамагае аздобіць мноства школьных музеяў на Беларусі, дае самую размаітую кансультацыю навукоўцам...

А колькі цеплыні, духоўнай энергіі пераняў ад Зоські Верас і я:

Баравая, уся лясная,
уся памятлівая на здзіў.
Не пытаюся я, бо знаю,
вечны верас хто пасадзіў.
Паспяшаюся. Зноў паверу:
даўгалецце наша — любоў!
...Дзесь пад Вільняю
Зоська Верас
прыручае нам галубоў.

Не забудуцца сустрэчы ў яе лясным доміку на Панарах пад Вільнюсам, калі ўручаўся Зосьцы Верас пісьменніцкі білет, калі разам з яе роднымі, сябрамі святкавалі 90-годдзе, 95-годдзе, калі з Мінска прыязджала тэлевізія зафіксаваць яе пагляд, яе побыт, яе набытак...

Не стала хаткі, куды сыходзіліся людзі на паклон, на благаславенне. Адцвіў верасок на шляху да чараўніцы. Не стала і самой Людвікі Антонаўны... Але яна дажыла да той падзеі, да якой імкнулася з самых юнацкіх гадоў — да абвяшчэння Рэспублікі Беларусь, да прызнання яе Бацькаўшчыны вольнай, незалежнай.

Кожным імем айчынным
пазначана
радавое дрэва. У радках
«Зоська Верас» чытаем...
Не страчана
ані слова, ні дня
у вяках.

**Сяргей ПАНІЗНІК.**

## НАШ КАЛЯНДАР

●

95 гадоў з дня нараджэння казачніка Паула Акулевіча (памёр 1 сакавіка 1979 года). Ад яго запісана 16 твораў, сярод якіх у асноўным гумарыстычныя і сатырычныя казкі, анекдоты. Выконваў уласныя гумарыстычныя апавяданні, свайго роду гутаркі, што адлюстроўвалі мясцовае жыццё.

●

260 гадоў з дня нараджэння беларускага вучонага, лінгвіста, драматурга, палітыка-царкоўнага дзеяча Станіслава Богуша-Сестранцэвіча (нарадзіўся 3 верасня 1731 года — памёр 1 снежня 1826 года). Аўтар трагедыі «Гіцыя ў Таўрыдзе» (1783), якую сам паставіў і выдаў. У Магілёве выдаў таксама гісторыка-краязнаўчую працу «Аб Заходняй Расіі» (1793), у якой асэнсаваў розныя аспекты еднасці беларусаў, украінцаў, рускіх. Пісаў вершы на польскай і лацінскай мовах. Ёсць меркаванні, што з'яўляўся аўтарам беларускай граматыкі, пакуль што не знойдзенай. С. Богуш-Сестранцэвіч — дзядзька В. Дуніна-Марцінкевіча.

●

80 гадоў з дня нараджэння пісьменніка Пятра Дудо (памёр 23 лютага 1958 года). Аўтар аповесці «Першы салют» (1958), сатырычнай камедыі «Чортаў тузін» (1963), выступаў з нарысамі і апавяданнямі.

●

80 гадоў з дня нараджэння паэта Юлія Таўбіна. Стаў ахвярай сталінізму 30 кастрычніка 1937 года. Выдаў кнігі паэзіі «Агні» (1930), «Каб жыць, спяваць і не старэць...» (1931), «Тры паэмы» (1931) і іншыя. Паэзія Ю. Таўбіна перавыдавалася ў 1957 і 1969 гадах.

●

95 гадоў з дня нараджэння яўрэйскага пісьменніка Уры Фінкеля (памёр 5 снежня 1957 года). Друкавацца пачаў у 1918 годзе. Аўтар біяграфічных кніжак пра класікаў яўрэйскай літаратуры: «А. Гольдфадэн» (1926. раман напісаны сумесна з Н. Айслендарам), «Мендэле Мойхер-Сфорым» (1937), «Шолам-Алейхем» (1938). Выступаў таксама з літаратуразнаўчымі артыкуламі і гісторыка-этнаграфічнымі нарысамі.

●

85 гадоў з дня нараджэння Алеся Салагуба (памёр 26 лістапада 1941 года). Удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі. У Мінску ў 1929 годзе выйшаў зборнік вершаў «Лукішкі». У 1961 годзе часопіс «Полымя» апублікаваў «Лукішскі дзённік», які А. Салагуб вёў за кратамі.

